— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

6 ВЕРАСНЯ 1996 г. № 36 (3860) Кошт 2 500 руб.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ЖЫВІЦЕ ПРАЎДАЙ!

## ЛІСТ-ЗВАРОТ ДА СТУДЭНЦКАЙ І ВУЧНЁЎСКАЙ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ

Дарагія сябры!

Пачынаецца новы навучальны год, на працягу якога вам належыць коштам руплівай працы значна ўзбагаціць свае веды, пашырыць свой інтэлектуальны і духоўны кругагляд, умацаваць свае ідэйныя перакананні і маральныя прынцыпы. Вам належыць за гэты год яшчэ ў большай меры, чым вы ёсць сёння, стаць свядомымі грамадзянамі і патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны -- суверэннай і незалежнай Беларусі. Існі гэтым шляхам чалавечага і грамадзянскага станаўлення вам будзе нялёгка, бо вас будуць на кожным кроку ўводзіць у зман і збіваць з абранага накірунку людзі, якія вельмі не хочуць, каб вы выраслі і выходзілі ў самастойнае жыццё верным сынамі і дочкамі сваёй Маці-Краіны. Людзі, якія, свядома ці несвядома, стаяць на пазіцыях нігілістычных і варожых да ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння, якія зневажаюць і бэсцяць нашы нацыянальныя святыні, пагарджаюць нашым найкаштоўным скарбам — мовай, топчуць гістарычную памяць народа, яго шляхетныя, высакародныя традыцыі і звычаі. Людзі, якія адмаўляюць нам у праве мець сваё ўласнае духоўнае і культурнае аблічча.

Асабліва агрэсіўна настроены яны супраць адвечнай мовы зямлі, на якой мы жывём, — супраць нашай роднай беларускай мовы. У гэтых людзей вялізны вопыт палітычнай мімікрыі і хітравання, вытворчасці прыгожых і прывабных слоў, за якімі — зусім не прыгожыя і не прывабныя справы. І, аднак жа, яны баяцца праўды, калі яе гаварыць ім у вочы. Спытайце, напрыклад, у іх: чаму вы не хочаце, каб на Беларусі панавала мова гэтай зямлі — адна з прыгажэйшых, мілагучнейшых моў у свеце? — і ім няма чаго адказаць. Праўда, з тэлеэкрана і з трыбуны можна ад іх пачуць: ды мы не супраць, каб беларуская мова жыла, калі ласка — вывучайце, карыстайцеся ёю!.. Але гэта толькі на словах, а на справе яны робяць усё, каб наша мова перастала жыць, каб яна паступова сышла на звод і згінула.

Дарагія сябры! Не паддавайцеся сацыяльнай і палітычнай дэмагогіі тых, каго яшчэ вялікі Купала ахрысціў "ворагамі беларушчыны". Патрабуйце ў сваіх навучальных установах выканання Закона аб мовах і Канстытуцыі, паводле якой беларуская мова з'яўляецца ў нас дзяржаўнай. Патрабуйце аб'ектыўнага, праўдзівага асвятлення ў лекцыях і падручніках гісторыі беларускага народа і Беларусі. Патрабуйце паважлівых адносін да нашай духоўнай і матэрыяльнай культуры, да мастацкіх каштоўнасцяў народа. Рабіце гэта з поўным усведамленнем, што тым самым здзяйсняеце свой грамадзянскі абавязак, што права на гэта вам дадзена самім Усявышнім — як усюды на зямлі вашым равеснікам.

*(Працяг на стар. 4)*





# ШЧАСЛІВЫ ЛЁС ПАКУТНІЦЫ РАГНЕДЫ

## 6 ВЕРАСНЯ АДКРЫВАЕ СЕЗОН НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР БАЛЕТА БЕЛАРУСІ...

...І другі сезон запар першым спектаклем на афішы пазначаны "Страсці" ("Рагнеда"). Для чытача дасведчанага інфармацыя гэтая — вычарпальная. Бо ўжо больш чым год, як увайшоў у наш культурны досвед новы яскравы твор харэаграфічнага мастацтва. І ўжо год, як не гасне грамадская ўвага да яго, не аціхаюць размовы пра плён фенаменальнага таленту Валянціна Елізар'ева, ганараванага сёлета міжнародным прызам "Бенуа дэ ля данс" у намінацыі "лепшы харэограф". Як усцешна, што на сусветны харэаграфічны Алімп нашага знанага майстра прывяла менавіта беларуская гераіня — Рагнеда! Менавіта пастаноўка нацыянальнага балета "Страсці" ("Рагнеда") на музыку глыбокага і яскравага творцы — Андрэя Мдзівані атрымала найвышэйшую ацэнку міжнароднага журы...

Вобраз нашай гістарычнай святыні — Полацка, зганьбаванага і спаленага ўладарным варварам. Вобраз пяшчотнай, зняважанай і непакорлівай Рагнеды. Вобраз неадназначнай, багатай на крывавыя падзеі ды на чароўную рамантыку, гісторыі нашага краю, нашага люду, які пакутаваў і сталеў у скрутны, паміж паганствам ды хрысціянствам, час... Вобразы, вобразы... Выснуваюцца яны з адмысловай мовы — мовы танца, мовы пластыкі, мовы мізансцэн, мастацкага святла, рытму дэкарацый, жывога подыху аркестра. І — хору, які ў гэтым балеце робіцца важным чыннікам драматургіі.

Адмысловая вобразная мова харэаграфічнага спектакля ўражвае нас таму, што поруч з Валянцінам Елізар'евым ды Андрэем Мдзівані працавалі такія натхнёныя творцы, як дырыжор Генадзь Правátaраў, мастак Вячаслаў Окунеў, салісты балета Інеса Душкевіч, Кацярына Фадзеева, Веніямін Захараў, Уладзімір Даўгіх... І зусім заканамерна, што імёны ўсіх гэтых майстроў трапілі ў лік вылучаных сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Сапраўднае мастацтва робіць па-свойму шчаслівым легендарны вобраз Рагнеды, які дасягнуў вышынь творчага адкрыцця і агульначалавечых абагульненняў.

**С. Б.**

*На здымку: В. Захараў (Уладзімір) і І. Душкевіч (Рагнеда) у спектаклі "Страсці"*

*Фота Віт. АМІНАВА*

Парламент

# ГУЛЬНЯ Ў АДНЫ ВАРОТЫ?

Я невялікі аматар футбола, але, прызнаюся, цяперашняе процістаянне прэзідэнцкай і заканадаўчай улад у краіне мне нечым нагадвае гэтую папулярную гульню. Прынамсі, у тым яе варыянце, калі яна ідзе, як кажуць, у адны вароты. Пакуль слабасыграная парламенцкая каманда мітусіцца на полі, агалошваючы паветра ляянкай і ўзаемнымі папрокамі, у яе вароты адзін за адным улятаюць "безответные" галы. І хоць многія з іх забіты насуперак існуючым правілам, трыбуны ў захапленні, бо часцей у нашым жыцці падтрымліваюць нахабных і моцных.

Звычайна ў такой сітуацыі капітан, сабраўшы каманду, што церпіць паразу, робіць разбор гульні, нацьваючы гульцоў на слабыя месцы праціўніка. Нешта накшталт гэтага адбылося 2-га верасня, калі "капітан" парламенцкай каманды Сямён Георгіевіч Шарэцкі, адкрываючы другую сесію Вярхоўнага Савета 13-га склікання, паспрабаваў зарыентаваць дэпутатаў на першачарговыя дзеянні. Як і можна было чакаць, яго прамова была прысвечана падзеі, што з неадольнасцю навалы насоўваецца на краіну ў сёлетнюю восень, — ініцыяванаму прэзідэнтам краіны А. Лукашэнкам рэферэндуму з яго галоўным лёсавызначальным пытаннем аб новай рэдакцыі Канстытуцыі.

Скажам адразу, выступ Старшыні Вярхоўнага Савета, хоць і пазбаўлены прамоўніцкага красамоўства (тут роўных Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку, бадай, не знойдзеш), прагучаў, як "штармавое папярэджанне нумар адзін". Прыняцце фактычна новай Канстытуцыі, падкрэсліў прамоўца, азначае карэнныя змены ў дзяржаўным ладзе краіны, ліквідацыю ў існуючым сёння выглядзе многіх дзяржаўных інстытутаў — ад Вярхоўнага Савета і іншых выбарчых структур да суда, пракуратуры, органаў кантролю і г.д. Але галоўнае, на што скіраваны, на думку выступоўцы, гэтыя змены — даць абсалютную, некантралюемую ўладу прэзідэнту.

"З гэтай высокай трыбуны, — сказаў спікер, — я хацеў бы звярнуцца і да дэпутатаў, і да ўсіх рабочых, сялян, інтэлігенцыі: удумліва прачытайце тэкст Канстытуцыі, прапанаваны прэзідэнтам, і паспрабуйце ўявіць сабе, якое грамадства будзе ў Беларусі, калі гэта Канстытуцыя будзе прынята на рэферэндуме і стане ажыццяўляцца і што тады чакае наш народ..." С. Шарэцкі прапанаваў праз колькі дзён зрабіць перапынак у рабоце сесіі, каб дэпутаты маглі пабыць у сваіх акругах, сустрэцца з выбаршчыкамі, дапамагчы ім разабрацца ў сапраўдных мэтах рэфэрэндуму, адкрыць людзям вочы на тое, што можа стацца з краінай, калі тут будзе ўстаноўлена дыктатура адной асобы.

Здавалася, прамова спікера павінна была "ўзяць за жывое" дэпутатаў. Ды, як кажуць, з вялікага грому — малы дождж. Амаль адразу парламентарыі прыступілі да ўдакладнення пытанняў парадку дня сесіі. Руцінны працэс. І толькі аднойчы тэмпература ў Авальнай зале крыху падскочыла. Гэта прыпала на выступленне лідэра парламенцкай фракцыі камуністаў С. Калякіна, які прапанаваў уключыць у парадак дня сесіі пытанні аб скасаванні прынятых ВС у свой час законаў аб дэпартызацыі органаў улады, прадпрыемстваў і ўстаноў і нацыяналізацыі маёмасці КПБ, а таксама пастановы, паводле якой было забаронена ўжываць у назвах палітычных партый і грамадскіх рухаў назву дзяржавы.

Першыя дзве прапановы фракцыі большасцю галасоў былі адхілены. Можна па-рознаму тлумачыць гэты, не да часу праяўлены, імпэт камуністаў да аднаўлення "справядлівасці. Мне ж падаецца, што ўсё гэта тлумачыцца адным — фракцыя камуністаў, якая, аддадзім ёй належнае, апошнім часам нямала зрабіла, каб адстаяць гонар і незалежнасць Вярхоўнага Савета, чым скіравала на сябе агонь крытыкі многіх папрэзідэнцку настроеных членаў ПКБ, вырашыла сябе такім спосабам рэабілітаваць у іх вачах, засведчыўшы адданасць партыйным інтарэсам.

Варта расказаць і пра скандал, што раптам успыхнуў у Авальнай зале. Пачаўся ён з выступлення ад мікрафона дэпутата В. Мініча, які заявіў, што з абурэннем успрыняў з'яўленне свайго прозвішча сярод падпісантаў змешчанага ў "Народнай газеце" 31 жніўня "Звароту дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да выбаршчыкаў і народа Беларусі", дзе выказваецца поўная падтрымка палітыкі прэзідэнта краіны і ініцыяванага ім рэферэндуму. Па словах сп. Мініча, тэксту звароту ён у вочы не бачыў, прынцыпова з ім не згодны і патрабуе ад галоўнага рэдактара газеты Л. Юнчыка ("Я прызнаю галоўным рэдактарам "Народнай газеты" толькі чалавека, прызначанага на гэтую пасаду Вярхоўным Саветам", — падкрэсліў ён) абвяржэння.

Следам за ім з аналагічнай заявай выступіў яшчэ адзін "падпісант" — дэпутат А. Ляшчынскі, якога таксама "ажанілі" без яго згоды. Ліпавым аказаўся і подпіс пад зваротам дэпутата В. Бусько. Са свайго старшынёўскага крэсла падаў рэпліку і С. Шарэцкі, паведаміўшы, што яму тэлефанаваў дэпутат В. Кебіч, які таксама быў абураны, убачыўшы свой подпіс пад згаданым дакументам.

Усё гэта дало падставы старшыні парламенцкай фракцыі камуністаў С. Калякіну ўнесці прапанову заняцца праверкай усіх гэтых фактаў камісіі па рэгламенце і дэпутацкай этыцы ВС. Прапанова гэта была прынята і назаўтра, 3-га верасня, парламент прысвяціў гэтаму пытанню значны кавалак пленарнага пасяджэння.

З даклада старшыні камісіі А. Красуцкага паўставала досыць заблытаная гісторыя з'яўлення звароту і збору подпісаў пад ім. Аказалася, што на арыгінале гэтага дакумента, адасланага ў рэдакцыю "Народнай газеты", наогул адсутнічаюць подпісы 16 дэпутатаў, прозвішчы якіх у газеце надрукаваны. Праўда, як вынікала з праверкі, пра згоду 10 дэпутатаў падпісаць "Зварот" кіраўніку ініцыятыўнай групы па яго арганізацыі У. Канаплёву нібыта тэлеграфавалі кіраўнікі Брэсцкага і Віцебскага аблвыканкамаў.

Як здабывалася на месцах згода тых "дзесяці" падпісаць зварот, можна толькі здагадвацца (паводле рэплікі аднаго з парламентарыяў, пад згаданым дакументам стаіць і прозвішча дэпутата, які зараз у цяжкім стане ляжыць у рэанімацыі).

Ну, а астатнія падпісанты? Яны рэальна існуюць. Паўтараецца даўняе, напаўзабытае: "Доктара Жывага" Пастэрнака не чыталі, але не адабраем"? Цяпер жа: "Канстытуцыю Лукашэнкі не чыталі (тэкст яе з'явіўся ў тым жа нумары "Народнай газеты", што і згаданы Зварот), але адабраем".

Застаецца толькі ўсклікнуць услед за класікам, "О времена, а нравы!"

І яшчэ адна навіна. Некалькі дзесяткаў дэпутатаў 4-га верасня былі запрошаны прэзідэнтам на гаворку. Спікера парламента С. Шарэцкага сярод іх не было...

**М. ЗАМСКІ**

Варункі

# НАША ЭМІГРАЦЫЯ

**Вось і зноў у нас з'явілася палітычная эміграцыя. Хоць тут мы ўжо аказаліся першымі з усяго СНД. І калі хада жыцця будзе ісці ў тым самым накірунку, як і зараз, дык, пэўна, што гэта паляцелі з Беларусі яшчэ толькі першыя ластаўкі. А колькі іх ужо было! Як пачынала прыпякаць на Радзіме, беларусы рассейваліся па ўсім свеце, і як выяўлялася пазней — былі далёка не апошнімі недарэкамі. У нас чамусьці заўсёды выпіхвалі лепшых.**

**Эміграцыйны набытак беларусаў немалы. Так, згадваю свайго аднафамільца, а, верагодна, і сваяка, Аляксандра Бяляцкага, які пасля чарговага паўстання апынуўся ў Амерыцы і стаў, як скрозь пісалі пра яго энцыклапеды, "асабістым сябрам прэзідэнта" Аўрама Лінкальна. Калі пачалася вайна з Поўднем, ён загінуў у першым жа баі, атрымаўшы кулю ў лоб.**

**Той-сёй з беларусаў нават сам станавіўся прэзідэнтам, як М. Судзілоўскі, ці нацыянальным героем іншых краін, як І. Дамейка ў Чылі.**

**З беларускай эміграцыі ў людзі выбіваліся таксама іхнія нашчадкі. Тут мы можам прыгадаць на чвэрць беларуса, прэзідэнта Грэцыі Папандрэу. Мяне асабіста заўсёды грэла сэрца імя найвялікшага хакеіста стагоддзя Грэцкага, які сам шчыра гаворыць пра сваё беларускія карані, і заўсёды цікавіла паходжанне славутага амерыканскага кінарэжысёра Пітэра Багдановіча...**

**У гісторыі беларускай літаратуры эмігранты-пісьменнікі таксама займаюць вельмі адметнае месца. Менавіта яны, выкінутыя віхураю апошняй вайны за межы Бацькаўшчыны, непадуладныя сталінскаму гіпнозу, працягвалі і развівалі традыцыі праўдзівай беларускай літаратуры. Парадокс: у другой палове 40-х і ў 50-х гадах кветкі прыгожага беларускага пісьменства квітнелі ў Амерыцы, Аўстраліі і Нямеччыне. А тут, пад Саветамі, аж да XX-га з'езда адно дрынчэлі бляшаныя надмагільныя вянкі.**

**Зараз, калі разглядаеш вершаваныя зборнічкі, прозу, крытыку, якая павыходзіла т а м, дык разумееш, што нават пісьменнікі меншага спамеру т а м здолелі раскрыцца напоўніцу. Яны самарэалізаваліся як творцы. Эміграцыя выратавала іх не толькі фізічна, яны выратавалі іхнія душы. А гэта для чалавека, як для боскага стварэння, хіба што самае істотнае.**

**Весь жа, зноў надыходзяць суровыя часы. Я ўпэўнены, што раней ці пазней прэзідэнт захоча і ў культуры "навесці парадак", так, напрыклад, як з банкамі. І шмат перад кім тады паўстане пытанне — прыстасоўвацца, угінаць галаву, ці спрабаваць не паддавацца, тут, пакуль гэта магчыма, заступацца за культуру, за мову. А вось калі пачнуць саджаць і знішчаць — з'ехаць і працягваць бараніць святыні, свой народ, уласную годнасць на эміграцыі.**

**Да чаго даводзіць свядомы канфармізм — паказваюць вынікі гаспадарання Саветаў на Беларусі. Інтэлігенцыя, нягледзячы на ўсе "але...", нацыю праспала. Яна, за невялікім выняткам, амаль што і не спрабавала ўпірацца. Але зараз іншыя часы, іншыя пакаленні, іншыя людзі. Мяркую, цяжка будзе зноў загнаць усіх у агульны хлеў.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

Адгалоскі

# "МЫ ЗРОБІМ ІНАКШ..."

"Забраць уладу ў тых, хто не ўмее ёй карыстацца" — інтэрв'ю з такой назвай з'явілася ў нашым тыднёвіку шэсць гадоў таму. Калі зараз хтонебудзь з палітыкаў прамовіць такія ж неасцярожныя словы, у лепшым выпадку яго назавуць "ожившим от безделья политиканом", у горшым — ён будзе вымушаны шукаць прытулку за мяжой. А калі гэтак асмеліцца сказаць не проста палітык, а яшчэ і дэпутат парламента, яму патлумачаць, што "отрешат от власти раньше, чем он об этом думает".

Але тады, у ліпені 1990 г., нягледзячы на існаванне СССР і КПСС, было, відаць, лягчэй. Згаданае вышэй інтэрв'ю даў "ЛіМу" народны дэпутат БССР па Шклоўскай выбарчай акрузе N 310 Аляксандр Лукашэнка.

Аляксандра Рыгоравіча ўзору 1990 г. можна цытаваць і цытаваць. І параўноўваць з цяперашнім. Ды супастаўляць ягоныя выказванні з сённяшнім днём: "На жаль, дзеля добрага мліва нам не стае не толькі прафесіяналізму, але і культуры, не стае выхаванасці і інтэлігентнасці, узаемнай павагі і ўвагі"; "...цяпер мы жадаем прымусіць працаваць толькі народ, а самі пры гэтым хочам кіраваць, і прытым — кепска кіраваць! Толькі думаць, і прытым — кепска думаць!"; "Баюся, нам яшчэ доўгі час будзе перашкаджаць кансерватызм мыслення, звычныя стэрэатыпы звычнай адміністрацыйна-каманднай сістэмы". А вось яшчэ пра сістэму і партыю: "Прафесія сакратара райкома — самая горшая з прафесій. Вельмі рэдка партыйная сістэма зберагае прафесіяналаў. Яна іх дыскваліфікуе. Я сам быў сакратарам парткома, на шчасце, у калгасе. Працаваў на месцы, як кажуць. Гэта мяне выратавала. А каб я ў апараце сядзеў? Сістэма не церпіць творчага падыходу. У ёй працуюць салдаты, салдаты партыі. Мне здаецца, што прафесіянал-партработнік — самы горшы прафесіянал, асабліва калі ён доўга праседзеў у крэсле"; "Я рады, што застаўся Гарбачоў" (на XXVIII з'ездзе КПСС, які праходзіў у Маскве ў 1990 г. — **А. Ш.**). Ён патрэбен сёння, а можа, спатрэбіцца яшчэ доўга. Змены ў партыі наўрад ці адбудуцца. А партыю трэба ратаваць. Я камуніст, і выходзіць з яе не збіраюся".

Шэсць гадоў таму цяперашні прэзідэнт меўся даволі рашуча рэфармаваць эканоміку, і ў прыватнасці, аграрны сектар: "...мой радыкалізм, асабліва ў гэтай сферы, аграрнай, не знаходзіць падтрымкі"; "Я ведаю, што няма ў нас іншага шляху, іншай магчымасці падняць сельскую гаспадарку, як змена форм уласнасці, шырокі іх дыяпазон, аж да прыватнай. Гуляючы ж у папулізм, не ідучы на нетрадыцыйныя, на непапулярныя захады, мы толькі пагаршаем сітуацыю".

Ці, калі ласка, колькі цікавых думак сп. Лукашэнкі пра вёску, ад якой, як вядома, наш прэзідэнт чакае заўсёднага разумення й падтрымкі: "Вёска — гэта правінцыя, і мала таго, правінцыя, на жаль, кансерватыўная"; "Калі глядзеў першы дзень работы (XXVIII з'езда КПСС. — **А.Ш.**), стала сумна. Выступленні гучалі ў лепшых традыцыях застойных часін. Нехта з нашых, вясковых, кідае ў залу: "На вёсцы чытаюць газеты!" — апладысменты. Так, на вёсцы газеты чытаюць, але не ўсе. У вёсцы сёння больш п'юць і менш за ўсё цікавяцца палітыкай. Ці яшчэ: "Адзін селянін корміць семнаццаць чалавек тых, якія стаяць са сцягамі на плошчы". Гэта ж увогуле абсурд! Ці можна на такім высокім узроўні крычаць гэткае, ды яшчэ пад апладысменты?!"

Ужо ў 1990г. сп. Лукашэнка вырашыў, да чаго ён імкнецца. І, не забываючы штораз нагадваць пра клопат аб народзе, свядома ішоў да сваёй мэты: "Мне трыццаць пяць гадоў, я ўжо даўно вызначыў сваё месца!"; "Вельмі хачу, каб палітычная барацьба не адбівалася на працоўным людзе. Адна з прыкмет рэвалюцыйнай сітуацыі — абвастрэнне вышэй звычайнага галечы і бедстваў народных мас. Але ці можам мы на такое пайсці? Не, зробім інакш. Мы павінны забраць і забяром уладу ў тых, хто не ўмее ёй карыстацца. Не сёння, дык заўтра, але забяром". І з гэтымі словамі Аляксандра Рыгоравіча нельга не пагадзіцца нам сённяшнім.

**Аляксей ШЭІН**

Надзённае

Мікола ЛЯШЧУН

## АДНАДУМЦАМ

**Наш час пакуль што не настаў.**
**І, калі хопіць моцы й волі,**
**Спадзе нам светлы знак Хрыста,**
**Што дасць душы крыху спатолі.**

**Адтуль, з сівых глыбінь вякоў**
**Прарос наш праканеты колас.**
**Наш час пакуль не надышоў,**
**Не ўсе пакуль пачулі голас.**

**Патрэбна болей дух будзіць,**
**Хоць шлях у заўтра і не блізкі.**
**Каб зваца вольнымі людзьмі**
**Карцела з матчынай калыскі.**

•

**Паспеў чаканы ўрэшце час,**
**Нібы гаротны жытні колас.**
**І смела можа кожны з нас**
**Пра мовы лёс**
**сказаць уголас.**

**Што з ёю, роднаю, было,**
**Хай знаюць праўду дзеці, ўнукі.**
**Пакуль праменіцца святло,**
**Згадаем здзекі і прынукі.**

**Народ патрэбна ратаваць**
**І не даваць нявецам спуску.**
**Куды цяжэй — не бедаваць,**
**А размаўляць па-беларуску.**

*м. Лагойск*

ЛіМ ЧАСАПІС

## ДРУКУЕ "БЕЛАРУСКАЯ КАПЭЛА"

### Рэлігійная музыка на Беларусі



**Першай з'явілася... чырвоная кніга. Пад яркай чырвонай вокладкай з фірменным значком Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла" ўпершыню былі сабраны звесткі пра больш чым стогадовы перыяд развіцця на Беларусі царкоўнай музыкі. Змяшчаліся графічныя ілюстрацыі, разнастайныя нотныя прыклады. Аўтар гэтага навукова-папулярнага нарыса "Царкоўная музыка на Беларусі. 989 — 1995" лонданскі даследчык Гай дэ Пікарда зрабіў пазнаваўчы экскурс у малавядомую сёння галіну культуры, падмацаваўшы гістарычныя факты, уласныя.назіранні да высновы нотадрукамі — ад ананімных манастырскіх рукапісаў да аўтарскіх твораў Міколы Равенскага, Міколы Куліковіча і нашага сучасніка Алега Залётнева. Прадмову да "чырвонай кнігі беларускай музыкі" напісаў дырэктар "БК" кампазітар Яўген Паплаўскі.**

**Менш чым праз год, параўнальна нядаўна, з'явіўся і першы выпуск нотаў з серыі "Рэлігійная музыка на Беларусі". Тут змешчаны знаны "Псалтыр рыфматворны" Сімяона Полацкага, з музыкай Васіля Цітова, харавыя творы Мікалая Анцава, Аляксея Туранкова, Міколы Куліковіча, нашых сучаснікаў Кірылы Насаева, Яўгена Паплаўскага, Людмілы Шлег. Адметнасць новага выдання ў тым, што тэксты песняспеваў пададзены па-беларуску не толькі кірыліцай, а і ў лацінскім напісанні. Добрай аздобай нотных старонак сталіся малюнкі Міхася Барздыкі.**

**Салідная праца "БК" можа стацца і яшчэ адна серыя — "Беларуская гітарная музыка", першы выпуск якой пабачыў свет некалькі месяцаў таму. У гэтым нотным зборніку — выключна сучасная музыка: п'есы Галіны Гарэлавай, Валерыя Жывалеўскага, Яўгена Паплаўскага. Прыгожым дапаўненнем да мастацтва музычнага і пацвярджэннем мастацтва паліграфічнага выглядаюць у зборніку малюнкі ды гравюры Напалеона Орды, Фердынанда Рушчыца і сталага творчага сябра "БК" Міхася Барздыкі.**

**"Беларуская Капэла" парадавала культурную грамаду яшчэ адной карыснай пазнаваўчай кніжкай — "Восіп Казлоўскі". Кароткі, ды вельмі змястоўны, з нотнымі прыкладамі, нарыс жыцця і творчасці нашага знанага земляка напісала музыказнаўца Вольга Дадзіёмава. Яркая постаць музычнага дзеяча, кампазітара, настаўніка Міхала Клеафаса Агінскага, постаць, якую квазігісторыкі "дзялілі" паміж рускай і польскай культурамі, — постаць Восіпа Казлоўскага вяртаецца, нарэшце, ва ўлонне спадчыны беларусаў. Думаю, падрыхтоўку і публікацыю такіх кніжачак-нарысаў руплівцы і сябры "Беларускай Капэлы" мусяць працягваць — дзеля гістарычнай справядлівасці, дзеля дакументальна-аб'ектыўнага слова пра тыя часы, калі лепшыя людзі нашай Бацькаўшчыны маглі рэалізаваць сябе толькі па-за яе межамі, узбагачаючы культуру суседніх народаў. Але ўрэшце... і сваю, родную, бо іхнія імёны ўсё ж вяртаюцца да нас.**

**С. Б.**

*Так выглядае тытульны аркуш новай нотнай серыі.*

## ПАДЗЕЯ, ШТО НАТХНЯЕ

**На тэрыторыі дзіцячага садка N 205, што па праспекце Пушкіна ў Мінску, распачаўся пленэр "Размова з камянямі", наладжаны маладымі скульптарамі. Пленэр гэты можна назваць лакальным, калі параўноўваць з маштабамі рэспубліканскіх мерапрыемстваў. Але сама ідэя яго не патрабуе вялікай колькасці старонніх назіральнікаў.**

**Мінулагодні выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў Андрэй Вераб'ёў атрымаў грант Фонду Сораса, што дазволіла яму разам з сябрамі скульптарамі, удзельнікамі пленэра, набыць матэрыялы і абсталяванне. Так у дворыку дзіцячага садка забуруіў творчы вір, выплёскваючы ідэі нечаканых скульптурных кампазіцый, прызваных упрыгожваць нашы паркавыя і садовыя ансамблі. Але галоўнае, што зробленае ўрэшце застанецца ў гэтым самым дворыку — у падарунак дзеткам.**

**Матэрыял аб выніках пленэру чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".**

**Н. Ш.**



# Пятрусь МАКАЛЬ



31 жніўня 1996 года на 65-ым годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Пятрусь (Пётр Міхайлавіч) Макаль. Беларусь страціла таленавітага майстра слова, шчырага працаўніка на ніве нацыянальнай культуры, яшчэ аднаго свайго таленавітага сына.

Пятрусь Макаль нарадзіўся 25 жніўня 1932 года ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне (цяпер Польшча). Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся спачатку ў Гродзенскім будаўнічым тэхнікуме, затым у Гродзенскім педагагічным інстытуце, які закончыў у 1953 годзе. Працаваў у абласной газеце "Гродненская правда", рэдактарам аддзела культуры і навукі часопіса "Маладосць" (1957—1960), вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве (1960—1962), загадваў аддзелам літаратуры ў газеце "Літаратура і мастацтва", быў рэдактарам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР (1965—1966), памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай часткі Беларускага тэатра юнага гледача (1966-1975). З 1975 года — літкансультант Саюза пісьменнікаў БССР, з 1978 года — старшы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура". У 1980—1983 гадах — рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць".

Творчасць Петруся Макаля была адметнай і багатай на плён. Пасля першай публікацыі ў "Гродненской правде" (1949) выходзіла каля двух дзесяткаў зборнікаў паэзіі, кожны з якіх станавіўся прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры. Найбольшую вядомасць набылі кнігі "Першы след", "Вятрам насустрач", "Вечны агонь", "Круглы год", "Акно", "Дотык да зямлі", "Поле" (адзначана ў 1980 годзе Літаратурнай прэміяй імя. А Куляшова), "Калыска долі", "Асенняя пошта лістоты", "Азбука любві" і іншыя. У 1984 годзе за зборнік паэзіі "Смак яблыка" Пятрусь Макаль быў ушанаваны Дзяржаўнай прэміяй БССР. Выдаў некалькі кніг для дзяцей, неаднаразова выходзілі выбраныя творы. Шмат зроблена ім у галіне дзіцячай драматургіі. У дзіцячых тэатрах Беларусі шырока ставіліся яго п'есы "Адчыніце, казляняткі!", "Дай вады, калодзеж!", "На ўсіх адна бяда", сумесна з А. Вольскім ім напісаны п'есы "За лясамі дрымучымі" і "Марынка-крапіўніца". Ён аўтар лібрэта араторыі "Запрашэнне ў краіну маленства" (музыка Я. Глебава). Пераклаў зборнік сучаснай славацкай паэзіі "Татры пяюць", зборнік вершаў М. Валека "Крылы". Паэзія Петруся Макаля вылучалася надзённасцю тэматыкі, вострым адчуваннем жыцця, шырынёй погляду на свет, філасофскім роздумам.

Пятрусь Макаль быў чалавекам актыўнай грамадзянскай пазіцыі. На працягу многіх гадоў з'яўляўся членам прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі, неаднаразова выбіраўся старшынёй секцыі паэзіі, быў членам мастацкага савета Міністэрства культуры Беларусі, актыўна садзейнічаў справе нацыянальнага Адраджэння.

Творчасць Петруся Макаля яркаю зоркаю гарэла і будзе доўга гарэць на небасхіле нашай культуры. Ён быў таленавітым пісьменнікам, добрым, сумленным і шчырым чалавекам.

Такім ён захаваецца ў нашых сэрцах, такім ён застанецца жыць у памяці ўдзячных нашчадкаў.

**У. Русакевіч, У. Бельскі, А. Сасноўскі, В. Стражаў, А. Слука, М. Падгайны, У. Ярмошын, М. Матусевіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, І. Навуменка, І.Шамякін, В. Адамчык, С. Андраюк, М. Аўрамчык, Р. Баравікова, Д. Бічэль-Загнетава, В. Блакіт, Г. Бураўкін, А. Вольскі, А. Вярцінскі, М. Гіль, У. Гніламёдаў, С. Грахоўскі, Г.Далідовіч, А. Дудараў, А. Жалязоўскі, А. Жук, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Каваленка, А. Кудравец, У. Ліпскі, М. Лужанін, В. Лукша, Г. Марчук, У. Някляеў, У. Паўлаў, А.Пісьмянкоў, І. Пташнікаў, А. Разанаў, А. Русецкі, Я. Сіпакоў, В. Супрунчук, У. Юрэвіч.**

# БЫВАЙ, ДРУЖА...

Не стала Паэта.
Не стала Чалавека.
Не стала даўняга сябра.

Я стаю ля труны. Углядаюся ў такі знаёмы і нечым ужо незнаёмы твар. Даўкі камяк перайма голас, не дае гаварыць.

Ах, Пятрусь, Пятрусь! Навошта так рана, так нечакана?

Ты ляжыш нязвыкла ціхмяны, супакоены. А зусім жа нядаўна, колькі дзён таму, быў такі няўрымслівы, хуткі на вострае, трапнае слова. Часам нават і крыўднае для некага...

Міжволі ўзгадваю гады нашага даўняга сяброўства. Памятаю першую нашу прэм'еру — "За лясамі дрымучымі" ў тэатры юнага гледача. Мы пісалі п'есу разам. У вершах. Узважвалі кожны радок, кожнае слова. І абодва былі шчаслівыя, калі пераканаліся, што наша сумесная праца не была марнай. Прэм'ера ператварылася ў сапраўднае свята. Для нас з табой, для артыстаў, для гледачоў. А вайсковая перападрыхтоўка на Чарнаморскім флоце? Дзяжурствы па ахове рэйду, штармавы паход... І зноў — тэатр юнага гледача. Я дырэктар, ты — загадчык літаратурнай часткі. Але кожнае пытанне, нават калі яно і не мела дачынення да літаратуры, мы вырашалі разам... Шляхі нашы то сыходзіліся, то разыходзіліся. Часам набягалі хмаркі. Але яны хутка зніклі. І мы зноў былі разам. Гэтак, відаць, было наканавана звыш. Нават і жылі мы апошнія гады ў адным доме, у суседніх пад'ездах....

Я ведаю, Пятрусь, як многа выпрабаванняў выпала на тваю долю, як часта несправядлівасці жыцця ранілі тваё сэрца. Ты перажываў праз тое, што твая родная вёска, дзе цэлую вуліцу насялялі Макалі, апынулася па той бок дзяржаўнай мяжы. Ты перажываў праз тое, што мова наша сыходзіць з шырокага ўжытку. Ты перажываў праз тое, што робіцца на Бацькаўшчыне, праз пагрозу страты яе незалежнасці... А як пакутаваў ты разам з Галінай Іванаўнай, калі ваш Слаўка ваяваў у Афганістане!.. Я гэта ведаў. Бачыў. Спачуваў... І шчыра радаваўся, калі знаходзіў у друку новыя твае вершы. Радаваўся, што, нягледзячы на ўсе жыццёвыя нягоды, Муза не пакінула цябе. Не пакідала свайго ўлюбёнца.

І вось — апошняя паэма. Ты папрасіў мяне прынесці экземпляр часопіса "Полымя", дзе яна надрукавана. Але я не паспеў. Прабач. Не паспеў...

Калі я занатоўваю гэтыя радкі, гэтыя словы, прамоўленыя ў цяжкія хвіліны развітання, ты скіраваўся ўжо ў тое далёкае плаванне, з якога няма звароту. Але застаўся твой гнеды конь. Ён роспачна б'е капытом у бераг, смуткуючы па сваім гаспадары. Я ведаю: гэты конь з тае Пагоні, якую нікому і нікому не стрымаць і не суняць.

Бывай, Пятрусь...
Бывай, дружа...

**Артур ВОЛЬСКІ**

# ЖЫВІЦЕ ПРАЎДАЙ!

*(Працяг. Пачатак на стар.1)*

Рабіце гэта, помнячы, што за вамі і з вамі такія волаты творчага духу, такія вялікія родалюбцы, апосталы і абаронцы Бацькаўшчыны, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега, Астафі Валовіч, Міхаіл Агінскі, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Мікалай Нікіфароўскі, Іван Насовіч, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўхім Карскі, Алаіза Пашкевіч-Цётка, Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Цвікевіч, Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Ігнат Буйніцкі, Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч, Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Драздовіч, Уладзімір Жылка, Кузьма Чорны, Гаўрыла Гарэцкі, Мікалай Улашчык, Максім Танк, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Уладзімір Караткевіч — і многія-многія іншыя, вядомыя ўсёй Беларусі і цэламу свету імёны-сімвалы, імёны-светачы, імёны-маякі.

А хто — якія постаці, якія імёны — за тымі і з тымі; што сёння закрэсліваюць нашу гісторыю, прадаюць наш гонар і славу, нашу свабоду і незалежнасць, топчуць і знішчаюць нашу мову і культуру? Хто? — папытаймася. Якія вялікія аўтарытэты навукі і культуры Беларусі? Якія выдатныя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы? Можа, тыя, што павесілі Каліноўскага? Можа, тыя, што разагналі Усебеларускі Кангрэс у 1917? Ці тыя, што раскроілі Беларусь напалам у 1921? Можа, тыя, што палкамі і прыкладамі заганялі ў калгасы ў 1929—1931? Ці тыя, што пад корань выразалі цвет нацыі ў 1936—1938? Ці тыя, што 30 гадоў назад ліквідавалі апошнія беларускія школы ва ўсіх гарадах і мястэчках нашай Радзімы? Ці тыя закупленыя гісторыкі, што ў сваіх "навуковых працах і даследаваннях" апраўдвалі і падтрымлівалі ўвесь гэты гвалт над душой народа?..

Сённяшнія паслядоўнікі і заступнікі ўсіх тых "герояў нацыі", што чынілі гэтыя зверствы і бясчынствы, спекулююць на палітычнай няспеласці і нізкай нацыянальна-гістарычнай свядомасці пэўнай часткі насельніцтва Беларусі. Ім не сорамна, ім не баліць, што з нас, з нашай беларускай дурноты людзі пачынаюць ужо смяяцца. Яны не разумеюць, што здарылася самае страшнае з усяго, што можа здарыцца ў гісторыі народа — свет перастае нас успрымаць сур'ёзна. Але ж нехта павінен гэта разумець. Але ж некаму гэта павінна балець. Але ж нехта павінен ад гэтага ўспыхнуць гневам?

Дык помніце пра гэта, маладыя людзі, слухаючы прыгожую, салодкую хлусню пра раўнапраўе дзвюх моў на Беларусі, пра клопат аб развіцці беларускай нацыянальнай культуры, пра павагу і пашану да шматпакутнай, трагічнай гісторыі беларускага народа. Ведайце і помніце, што гэтая хлусня будзе панаваць у нашым грамадстве датуль, пакуль у ёй будуць зацікаўлены манкурты і халуі высокага дзяржаўнага рангу, якія дыктуюць народу сваю волю. Ведайце і помніце, што самая вялікая і небяспечная хлусня — гэта бессаромнае, цынічнае сцвярджэнне аб тым, нібыта народ Беларусі быў, ёсць і будзе шчаслівы толькі тады, калі не будзе сам гаспадаром на сваёй роднай зямлі, а будзе падпарадкаваны злой волі чыноўніка і дзяржымордаў імперскашавіністычнага крою.

Лёс Беларусі, лёс вашай будучыні і будучыні вашых дзяцей і ўнукаў залежыць ад таго, праўдай ці хлуснёй вы будзеце жыць і кіравацца сёння.

Зычу вам мужнасці і поспехаў у вучобе.

***Асобу айца Яна Матусевіча прадстаўляць чытачам "ЛіМа" наўрад ці ёсць патрэба. Гэты чалавек досыць вядомы ў Беларусі. А сталічная інтэлігенцыя мела магчымасць неаднойчы сустракаць яго на самых розных імпрэзах. Айцец Ян прадстаўляе сваю канфесію ў розных грамадскіх арганізацыях. Ён уваходзіць у склад рэспубліканскіх рад і ўпраў: ТБМ, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Біблейскага таварыства Беларусі, нядаўна арганізаванага беларускага фонду "Абаронім жыццё" і інш. У дадатак да ўсяго а. Ян Матусевіч вядомы як вялікі кніжнік, гаспадар багатай і ў многім унікальнай хатняй бібліятэкі. Гэта шчыры, свядомы беларус, які моліцца за Беларусь, за яе адраджэнне, за тое, каб мы, беларусы, не ўмёрлі і засталіся самі сабою, жылі незалежна ад чужой волі ды розных гістарычных абставін.***

***Штуршком да гутаркі з айцом Янам паслужыў неардынарны, думаецца, факт. Як "ЛіМ" паведамляў ужо, у Магілёве была асвечана першая ў Беларусі грэка-каталіцкая капліца — красамоўнае сведчанне таго, што уніяцтва на нашай зямлі пачало адраджацца.***

# "ХАЙ УСЕ БУДУЦЬ АДНО"

## СУБЯСЕДНІК КАРЭСПАНДЭНТА "ЛіМа" — УПРАЎЛЯЮЧЫ ДЭКАНАТА БЕЛАРУСКАЙ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ, ДЭКАН, ПРАТАПРАСВІТАР АЙЦЕЦ ЯН МАТУСЕВІЧ

**— Айцец Ян, што значыць вера для народа?**

— Мабыць, трэба гаварыць не проста пра веру, а пра тую веру, якая стала для народа сваёй, якая выяўляе, так бы мовіць, сутнасць ягонай светабудовы. Яна мае для жыцця народа велізарнае значэнне. Як колькі гадоў назад стала модна гаварыць — лёсавызначальнае. Сёння многія беларусы-праваслаўныя называюць сябе рускімі, беларусы-католікі — палякамі. А вось тое, што калісьці ў нас была свая вера — уніяцкая, сёння, трэба нагадваць і даказваць. Менавіта ў ёй, уніяцкай веры, трымалася беларускасць. І гэта не было даспадобы царскім уладам, якія 150 гадоў назад жорстка знішчылі уніяцкую царкву на Беларусі. А між тым сёлета яна святкуе сваё 400-годдзе — маецца на ўвазе гадавіна Берасцейскай уніі. Гэтая дата шырока адзначаецца ў свеце.

**— Асвячэнне капліцы таксама звязана з гэтым юбілеем? Раскажыце пра гэты акт...**

— Асвячэнне першай уніяцкай капліцы проста супала з юбілеем. Капліца гэтая была пабудавана даўно, яшчэ за часам уніяцтва, а пасля была зачынена і ператворана ў нейкі склад. Асвячэнне адбылося 15 жніўня, на вялікае свята Успення Маці Божай. Мы з апостальскім нунцыем у Беларусі архібіскупам Дамінікам Грушоўскім і з візітатарам кангрэгацыі Усходніх Цэркваў для грэка-католікаў на Беларусі "Ad nutum Sancta Saedis" а. Янам Сергіем Гаекам сустрэлі напярэдадні ў аэрапорце Мінск-2 ватыканскага кардынала Акіле Сільвестрыні, які прыехаў да нас не як госць, а як наша начальства, скажам так. Мы пакуль што не маем свайго біскупа і падпарадкоўваемся непасрэдна Ватыкану менавіта ў асобе кардынала. Дык вось, 15 жніўня ў Магілёве, на каталіцкіх могілках, адбылася служба, падчас якой кардынал Акіле Сільвестрыні зачытаў дэкрэт Папы Рымскага аб узнагароджанні апостальскага візітатара для беларускіх уніятаў айца Яна Сергія Гаека санам архімандрыта і ўручыў яму адпаведны крыж. Архімандрыт — гэта вышэйшая ступень у манастве. Пасля гэтага адбылося асвячэнне капліцы. Безумоўна, гэта сталася вялікай, значнай падзеяй у нашай дзяржаве. Гэта першы культавы будынак на Беларусі, які вернуты вернікам-уніятам.

На сённяшні дзень мы знаходзімся ў цяжкіх, складаных умовах. Акрамя магілёўскай капліцы, у нас няма больш ніводнага культавага будынка, нам даводзіцца праводзіць службы ў непрыстасаваных памяшканнях. Напрыклад, у Мінску мы молімся ў капліцы на вуліцы Прытыцкага ў пакоі жылога дома, дзе некалі быў "чырвоны куток" домакіраўніцтва. У нас у Мінску дзве грэка-каталіцкія парафіі, адна носіць імя Святога Язэпа, у ёй я з'яўляюся пробашчам, а другая — іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, дзе пробашчам айцец Казімір Ляховіч. У канцы 1991 года рашэннем Мінгарвыканкама нашай парафіі аддадзены будынак былога касцёла Святога Язэпа на вуліцы Кірылы і Мяфодзія. Але аддадзены пры ўмове, што будзе належаць нам тады, калі архіў, які там месціцца, выедзе з гэтага памяшкання. На жаль, новага будынка для архіва ўлады падшукаць не спяшаюцца. Другой парафіі выдзелена пляцоўка для будаўніцтва царквы ў канцы вуліцы Матусевіча. Два гады назад грэка-каталіцкімі святарамі там быў асвечаны крыж. Пакуль — праблемы з дакументацыяй...

**— Айцец Ян, сцвярджаецца, што калісьці 75—80 працэнтаў беларусаў былі уніятамі і маліліся ў сваіх шматлікіх храмах. Цяпер ацалелыя з іх сталі ці то касцёламі, ці то праваслаўнымі цэрквамі. Вы не станеце адбіраць сваё назад?**

— Наша мэта не адбіраць, а будаваць сваё і мірна суіснаваць з іншымі канфесіямі.

**— А сродкі на будаўніцтва?**

— Сродкаў, вядома, пакуль што няма, але мы спадзяёмся, што нам дапаможа адна з міжнародных дабрачынных каталіцкіх арганізацый.

**— Айцец Ян, вельмі важнае пытанне — рэлігія і мова. Важнае для нашага разумення свету, нашага быцця, нашых зносін з Богам. Вы набажэнствы заўсёды праводзіце па-беларуску. У сувязі з гэтым хочацца спытаць вось пра што. Ці можа быць рэлігія нацыянальнай? Ці, можа, правільней гаварыць пра нацыянальную царкву? Якую ролю можа яна адыграць у кансалідацыі і адраджэнні, скажам, нашага народа?**

— Пачну з таго, што большасць нашых вернікаў — маладыя людзі. Гэта студэнты, аспіранты, маладыя спецыялісты, рабочыя. Ёсць і людзі старэйшага ўзросту, якія таксама ўсведамляюць сябе беларусамі, жадаюць адраджэння Бацькаўшчыны. А яна наўрад ці можа адрадзіцца без адраджэння нацыянальнай царквы. Вось і адказ на вашае пытанне. Значэнне нацыянальнай царквы дзеля духоўнага станаўлення народа велізарнае. Нездарма ж кажуць, што народ ствараюць школа і царква. Нацыянальныя, само сабою.

Тым не менш, мы не замыкаемся ў сваім вузкім коле і з радасцю прымаем да сябе людзей іншых нацыянальнасцей: украінцаў, рускіх, палякаў і г. д. Але, разам з тым, мы не павінны забываць, што жывём мы на беларускай зямлі, і мова ў нашых храмах павінна быць беларуская, хаця маем права карыстацца і іншымі мовамі: грэцкай, царкоўнаславянскай...

**— Айцец Ян, выбачайце, але ўсё ж выклікае здзіўленне, што Беларускай грэка-каталіцкай царквою здзяйсняе кіраўніцтва не беларус, а паляк — маю на ўвазе айца Яна Сергія Гаека.**

— Пытанне аб кандыдатуры кіраўніка сёння не закрыта. У нас пакуль што на сённяшні дзень няма заступніка-беларуса, які б намі апекаваўся. Найбольш спрыяльнай, на думку нашых вернікаў, была б кандыдатура айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў замежжа. Гэта — глыбока свядомы беларус, вядомая, паважаная асоба ў свеце. Цяжкасці могуць быць у тым, што айцец Аляксандр Надсан — грамадзянін Вялікабрытаніі. Ды мне думаецца, што гэта не можа быць перашкодай. Зрэшты, мне думаецца, верыцца, што надыдуць лепшыя часіны для нашай царквы, наогул для нашага грамадства. Святарамі ў нашай царкве могуць быць людзі і іншых нацыянальнасцей, скажам, украінцы, славакі, тыя ж палякі, нават негры, але кіраўніком усё ж павінен быць беларус.

**— Айцец Ян, вас называюць "кішэнным дэканам". Што вы на гэта скажаце? Чым вытлумачваеце?**

— Ну, я сябе "кішэнным дэканам" не лічу. Але, магчыма, тыя абставіны, якія склаліся на сённяшні дзень, вымушаюць людзей думаць так. З Рыма прыязджае айцец Гаек і кажа нам рабіць тое ці гэта, і мы мусім выконваць. У духавенстве, як і ў войску: што загадвае вышэйшае начальства — выконвай. Вышэйшая ўлада — гэта ўжо ўлада апостальскага адміністратара, альбо апостальскага экзарха.

**— Айцец Ян, вось перада мною спецвыпуск газеты "Царква", прысвечаны 400-годдзю Берасцейскай уніі. У артыкуле "Грэка-каталіцкая царква на Беларусі (1989—1996)" гаворыцца наступнае: "Юрыдычна Беларуская грэка-каталіцкая царква падпарадкоўваецца кангрэгацыі Усходніх Цэркваў і непасрэдна ейнаму кіраўніку яго Эмінэнцыі кардыналу Прэфекту Ахілесу Сільвестрыні. Афіцыйным ягоным прадстаўніком ёсць апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі а. Сергій Гаек..." І раптам на гэтай жа старонцы — здымак айца Гаека з такім подпісам: "Апостальскі адміністратар для грэка-католікаў Беларусі а. Сергій Гаек". Значыць, айцец Гаек ужо прызначаны адміністратарам ці гэта — памылка друку?**

— Мне здаецца, гэта проста памылка друку. Айцец Гаек — апостальскі візітатар, адміністратар — гэта ўжо кіраўнік царквы.

**— Айцец Ян, я спецыяльна ўзяла з сабою адзін цікавы здымак 1960 года. У подпісе сказана, што на ім — усе беларускія каталіцкія і грэка-каталіцкія святары замежжа ў апартаментах Папы Рымскага. Ці пазнаяце вы каго-небудзь? І ці плануецца сёлета, скажам, у сувязі з юбілеем уніі, падобная аўдыенцыя сённяшніх беларускіх святароў у Ватыкане?**

— Размовы пра такую аўдыенцыю вядуцца, пра гэта нам гаварыў і айцец Сергій Гаек. А на здымку я пазнаю ўсіх — Папу Рымскага Яна XXIII, тагачаснага біскупа Мінскага і Магілёўскага Баляслава Сласкана, айцоў-прататаў Пятра Татарыновіча, Уладзіміра Салаўя, архімандрыта айца Льва Гарошку, айцоў Часлава Сіповіча, Аляксандра Надсана, Язэпа Германовіча (паэта Вінцука Адважнага) і іншых.

**— Айцец Ян, колькі ўвогуле парафій налічвае БГКЦ?**

— Сёння ў Беларусі зарэгістравана ІІ грэка-каталіцкіх парафій і яшчэ некалькі — на шляху да рэгістрацыі. З іх дзве ў Мінску, як я казаў ужо, па адной у Брэсце, Гродне, Гомелі, Віцебску, Магілёве, Маладзечне, Лідзе і Полацку. Абслугоўваюцца яны пяццю святарамі. Адзін святар абслугоўвае некалькі парафій. Напрыклад, я, акрамя адной мінскай, абслугоўваю і парафію ў Маладзечне. Айцец Казімір Ляховіч, акрамя мінскай, абслугоўвае парафіі ў Магілёве і Лідзе. Полацкі святар абслугоўвае парафіі ў Полацку, Віцебску і Гомелі.

**— Айцец Ян, а дзе навучаюцца на святароў?**

— Нашы кандыдаты ў святары вучацца за мяжой, у духоўных установах Рыма, Лювэна, Любліна, Лондана, Івана-Франкоўска...

**— А вы дзе вучыліся?**

— Мой шлях да святарства быў няпросты. Я заўсёды хацеў стаць каталіцкім святаром, але час быў такі, што ажыццявіць гэта адразу не ўдалося. Спачатку я атрымаў святарства ў праваслаўнай царкве — вучыўся ў духоўнай семінарыі ў Загорску. У 1979 годзе я перайшоў у лона рыма-каталіцкай царквы і 12 гадоў працаваў у Ашмянскім раёне пробашчам. Пасля да мяне звярнуліся лепшыя прадстаўнікі свядомай беларускай інтэлігенцыі з просьбай заняцца нялёгкай, складанай справай адраджэння грэка-каталіцкай царквы на Беларусі. І вось ужо шосты год я грэка-каталіцкі святар, з іх тры гады — Упраўляючы дэканата БГКЦ.

**— Айцец Ян, ці павінен католік альбо праваслаўны вернік, свядомы беларус, перахрышчвацца, калі ён захоча стаць уніятам?**

— Справа вось у чым. Сем святых Тайнаў (сакрамантаў), устаноўленых Ісусам Хрыстом, ёсць тыя самыя, як у праваслаўнай царкве, так і ў каталіцкай. Нашы вернікі — гэта католікі ўсходняга візантыйска-славянскага абраду. Таму перахросту не трэба. І калі хто хоча стаць нашым вернікам, мы даём яму магчымасць азнаёміцца з катэхізісам, ён прыходзіць да споведзі і пасля гэтага ён належыць да нашай Царквы.

**— Ці шмат уніятаў-беларусаў у нас у краіне і ў свеце?**

— У свеце беларусаў-уніятаў не так ужо шмат, яны раскіданы па ўсёй зямлі — і ў Амерыцы, і ў Канадзе, і ў Аўстраліі. У Еўропе беларусаў мала, яшчэ менш — свядомых. А ў нас у краіне уніятаў крыху больш за пяць тысяч. Хачу адзначыць, што нават пасля вайны на Беларусі яшчэ былі адзінкавыя парафіі уніятаў. Праўда, у канцы 40-х гадоў, пасля разгрому і забароны уніяцтва на Украіне, тыя адзінкавыя уніяцкія парафіі былі ліквідаваны на Беларусі і перададзены праваслаўнай царкве. Але ідэя уніяцтва засталася і на Беларусі. Да сённяшніх дзён захаваліся людзі, якія ад дзядоў, прадзедаў збераглі уніяцкую веру і не ішлі ні ў праваслаўную царкву, ні ў касцёл.

**— Айцец Ян, а чым адрозніваюцца абразы, крыжы уніятаў ад лацінскіх ці візантыйскіх?**

— Абразы нашы маюць выразны нацыянальны адбітак. Так бы мовіць, беларускі характар. Яны пісаліся ў мастацкіх традыцыях Беларусі і адрозніваюцца, скажам, ад маскоўскіх ці наўгародскіх — зусім іншыя твары, іншыя колеры, яны больш ачалавечаныя, "дабрэйшыя". На жаль, старых абразоў зберaглося няшмат, сёння іх можна пабачыць найперш у Музеі старажытнай беларускай культуры пры АН РБ. А што да крыжа, дык сваім мы назвалі шасціканцовы крыж Святой Еўфрасінні Полацкай, якая з'яўляецца апякункай для ўсіх хрысціян Беларусі.

**— На завяршэнне, айцец Ян, такое пытанне. Што гэта ўвогуле такое — само грэка-каталіцтва, унія?**

— Унія — гэта паяднанне, супольнасць, мір, дабрыня. І праваслаўны, і католік павінны згадаць былую лучнасць нашу і працягнуць адзін аднаму руку для сяброўскага пошуку. Само грэка-каталіцтва — гэта злучэнне дзвюх цэркваў, усходняй і заходняй. Тут ёсць прысутнасць візантыйска-славянскага абраду, а дух — каталіцкай царквы. Бо уніяцкая царква, як я ўжо казаў, частка сусветнай каталіцкай, і наша вышэйшая ўлада ёсць у асобе Галавы гэтай Царквы Папы Яна Паўла ІІ. Таму і каноны некаторыя ў нашай Царкве такія ж, як і ў рыма-католікаў. І грэка-католікі — гэта тыя ж самыя католікі, але якія моляцца ўжо ў іншым, усходнім абрадзе.

І галоўная наша задача не ў нейкім там супрацьстаянні рыма-католікаў і праваслаўных, а ў іх з'яднанні, паразумеласці, спасціжэнні той ісціны, што мы ўсе дзеці аднаго Бацькі-Бога і адной зямлі — беларускай, і мовай у храмах павінна быць наша родная, беларуская мова, як у праваслаўных, так і ў каталіцкіх.

Кожны чалавек павінен жыць у згодзе з Божымі запаведзямі. Усе мы — усходнія хрысціяне, грэка-католікі і праваслаўныя, дзеці адной традыцыі, і не трэба прыдумляць нічога новага, а шукаць супольныя малітвы, спаўняючы словы Хрыста: "Хай усе будуць адно". Быць аплотам адзінства сёння, звязкай, мостам паміж хрысціянскім Захадам і хрысціянскім Усходам — сапраўдная задача грэка-католікаў. І сваю задачу, як святара, бачу ў духоўным адраджэнні нашага народа, які павінен зразумець сапраўдныя каштоўнасці, што з'яўляюцца скарбам для душы.

**Гутарыла з а. Янам Матусевічам**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**



*На здымку: у час сустрэчы Папы Рымскага Яна XXIII і біскупа Мінскага і Магілёўскага Баляслава Слоскана з беларускім замежным духавенствам (1960).*

# НОВЫ ЧАСОПІС У ГОМЕЛІ

Называецца ён "Палессе". Галоўны рэдактар і заснавальнік гэтага літаратурна-гістарычнага і грамадска-культурнага выдання Рыгор Андрэявец (раней працаваў рэдактарам гарадской газеты "Гомельскія ведамасці") у слове да чытача, у прыватнасці, адзначае: "Неад'емнай часткай нашай гісторыі з'яўляецца гісторыя тых народаў, што жывуць поплеч з намі. Ведаць іх культуру, матэрыяльныя здабыткі — значыць узбагаціцца самому, стаць на галаву вышэй. Без павагі да гісторыі, літаратурнай і духоўнай спадчыны народаў-суседзяў мы не выхаваем сваю нацыянальную свядомасць, павагу да сябе ў сусветным супольніцтве. І таму часопіс будзе тым мастком, які злучыць нашы імкненні да плённых і раўнапраўных узаемасувязяў, узаемаразумення, дружбы паміж трыма ўсходнеславянскімі народамі. На яго старонках на родных мовах будуць друкавацца літаратурныя творы і публіцыстыка аўтараў з Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. І "Палессе" годна будзе несці гэтую высакародную місію".

І ўжо ў першым нумары побач друкуюцца вершы беларусаў Міхася Башлакова і Алега Маісеенкі, бранскіх паэтаў Сцяпана Кузькіна і Клавы Асеевай, чарнігаўцаў Станіслава Рэп'яха і Аляксандра Алійніка.

З паэтычных падборак неабходна адзначыць і творы нядаўна пакінуўшага нас Івана Кірэйчыка.

Старонкі дзённіка пад назвай "Даруй нам, Божа" прапанаваў часопісу Віктар Карамазаў, а гамяльчанін Анатоль Бароўскі — апавяданне "Вужык".

У раздзеле "Спадчына" друкуецца кароткі нарыс пра Вацлава Ластоўскага і дзве легенды ў ягонай апрацоўцы — "Сож і Дняпро" і "Бяздоннае багацце".

Надрукаваў часопіс і маю новую п'есу "Шкірдзюкі займаюць абарону", прэм'ера якой адбылася сёлета ў Мазырскім драмтэатры імя І. Мележа.

Даволі вялікі раздзел — "Публіцыстыка". Тут з артыкуламі выступаюць вядомыя на Гомельшчыне людзі Юры Варонежцаў, Валеры Сяліцкі, Валеры Бандарэнка, Уладзіслаў Ракашэвіч, а таксама пісьменнік Васіль Якавенка.

Часопіс "Палессе" прыемна ўзяць у рукі. Ён з густам аформлены, аддрукаваны на добрай паперы. Наклад — 1500 асобнікаў.

Па задумцы заснавальніка часопіса, у гэтым выданні будуць друкавацца лепшыя творы не толькі пісьменнікаў Гомельшчыны і іх калег з Браншчыны і Чарнігаўшчыны, але і ўсіх беларускіх творцаў. Як і ў "Полымі", "Маладосці"...

Таму хочацца пажадаць "Палессю" і ягонаму заснавальніку Рыгору Андрэяўцу поспехаў!

Васіль ТКАЧОЎ,
адказны сакратар
Гомельскага абласнога
аддзялення Саюза беларускіх
пісьменнікаў.

# "МАСТАЦТВА", N 8

М. Крукоўскі выступае з артыкулам "Матэрыяльная каштоўнасць". Г. Багданава ("Каб народнае жыло ў народзе") прапануе справаздачу з "круглага стала", праведзенага рэдакцыяй часопіса сумесна з Беларускім інстытутам праблем культуры. Незалежная фінска-шведская журналістка Г. Саландэр гутарыць з І. Бергманам — "Ці не пара кінуць, Інгмар?". У. Мальцаў рэцэнзуе "Спектакль для ненароджаных дзяцей" паводле Ф. Дастаеўскага ў Тэатры-студыі "Акт" — "Выгнанне з раю".

Увазе чытачоў прапануюцца гутарка Т. Мушынскай з Я. Паплаўскім "Вамі размаўляла сама душа Агінскага...", нататкі Ю. Зайца з нагоды выставы "Мары аб Заслаўі" ("Адлюстраванне міфа ці міфатворчасць?", развагі пра гэтае ж мерапрыемства Т. Гаранскай "Феномен Заслаўя", краязнаўчы нарыс Т. Кухаронак "Жніво", артыкулы Н. Кажэўнікавай "Быццам аазіс дасканаласці...", Л. Таіравай "Мандаліны цудоўныя гукі", нататкі М. Мелаграны "Скідайце шапкі, панове: перад вамі — "Вясна"!", аналіз В. Гаршкавоз адной са старонак манументальнага жывапісу Беларусі — "Касцёлы святога Францыска Ксаверыя", шэраг іншых матэрыялаў.

Паэзія

Віктар ШНІП



# ВАНДРОЎКА Ў ЧАСЕ

*Асацыятыўная інкрустацыя*

## СТУДЗЕНЬ

Сузор'і снегіроў па-над сумётамі
Трапечуць
Узвейваючы ўспаміны
Добра дома
Забыцца пра завіруху задумацца
Ехаць
Нібы неба не бачыць
Ь...

## ЛЮТЫ

Ледзяшы як ліхтары
Юрлівасць ракі ў палоне
Тупні і лёд трэсне
Ы-ы-ых!

## САКАВІК

Соннае пад сонцам скідае
з сябе снег
Абветраны абшар абяцае ажывіцца
Каменне ў калюгах як каралі
Адплывае адталае аджылае
Вяртаюцца з выраю
і вабяць вэрхалам
Ільдзіны ірдзеюць і знікаюць
Калодзе карціць квітнець

## КРАСАВІК

Красуецца кураслеп як каганец
Раўчукі расколваюць раллю
Абуджанае абнаўляецца
Светла ў садах і сенцах
Асветлены
Вечар вяртае верад
Імклівa імшэюць ілюзіі
Карэнне клапоціцца
пра крону

## ТРАВЕНЬ

Тоне ў травах тутэйшых туга
Рунь рызыкуе рынуцца
Адкрываецца аблічча адвечнае
Вужакі вірующь на выдмах
Еду праз ельнік
Наперадзе неруш не знойдзеш
Ь...

## ЧЭРВЕНЬ

Чмурэюць чмялі над чаборам
Эра эдему
Ружы як раніцы ракавінкі
Верыцца ў ветразь вандроўны
Енчыць адзінокі
Навальніцай няволіцца неба
Ь...

## ЛІПЕНЬ

Луг лашчыцца і лашчыць
Іду як імігрую ў іншасвет
Пыл і павуцінне пільнуюць спажыву
Ельнік пахне грыбамі
Надвячорак нагадвае
што ўсё нявечна
Ь...

## ЖНІВЕНЬ

Журыцца жытнішча жоўкне
Неба ніжэе
Імгліцца вёска
Восень праз вецер выглядае
Еду
Нявечнае натхненне
Ь...

## ВЕРАСЕНЬ

Вароны на віхлах
як на восеньскіх вежах
Ерэтычна згарае лістота
Росы рассыпаны
Аблокі асвойваюць абшар
Сонцу слізка сумна
Еднасці
Няма ў настроях нашых
Ь...

## КАСТРЫЧНІК

Крумкач да калюгі крадзецца
Ахвота абскубці ў ёй аблокі
Сады саромяцца сваёй светласці
Травы туляцца
Ралля распанела
Чакаючы
Непагадзь непакоіць
Ідылія
Канчаецца і клёны як кастрышчы

## ЛІСТАПАД

Лістота як лятаючыя ліхтары
Іду праз імглу
Сонца сніцца
Тужліва
Адлятаюць апошнія журавы
Па-над палямі павуціна ці шэрань
Азярцо як акно
апошняга восеньскага дня
Дзе дождж як д'ябал

## СНЕЖАНЬ

Светла ад снегу скуголіць скавыш
Ноч напамінае пра нябыт
Елкі
Жытло жывяць
Аблокаў аблога
Натхняе нас на новы год
Ь...

# ВАРОНА

варона гэта галавешка
якая ўзляцела на крыллях дыму
з пажарышча
і сеўшы на вершаліну дрэва
адчула сябе патухлай зоркай
і таму варона ганарлівая
як нягеглы мужык
які нейкім цудам выбіўся ў паны
варона зладзейка
але скраўшы сыр
варона марыць аб кароне
і крычыць яна аб сваёй мары
як п'яніца якога выгналі з карчмы
варона можа быць гжэчнай
і можа навучыцца гаварыць
нават зазірнуць у разумныя кнігі
але ўсё роўна
пры гэтым заставацца варонай
якая праваронiла сваё шчасце
калі Бог дзяліў паміж птушак галасы

# ДЫМ

дым імкнецца ў неба
як вязень на волю
і знікае не разумеючы волі
дым узветраныя валасы ведзьмы
якая жыве ў агні
і можна схавацца ў дыме
і можна згубіцца ў дыме
і паўзе дым па зямлі як цмок
якому адсеклі галаву
у якога душа —
дагараючае вогнішча
і ніхто не любіць дыму
дым самагубца
і ў яго жыццё кароткае
як летняя купальская ноч
дзе дзяўчаты і хлопцы
скачуць праз вогнішча
узлятаючы як дым
і гляджу я на дым
як на густую павуціну
у якой трапечуцца зоркі
як залатыя камары

•

Спачатку музыка была.
Яна з'явілася з святла,
Якое знікла назаўжды,
Як зніклі райскія сады,
Якія сёння ў снах цвітуць.
Але ўсё ж яблыкі растуць
Над светам, дзе няма цяпла,
Дзе людзям хочацца святла,
Дзе людзям хочацца,
каб Бог
Пачуў малітвы, дапамог
У цяжкі час, нібы было
Калісьці лёгка і цвіло
Каменне ля шляхоў людскіх,
Дзе нам да музыкі штоміг
Ісці, не верачы ў яе.
Ды ўсё ж яе нам не стае.
Яна з'явілася з святла,
Яна жыве, яна была
І будзе, покуль будзем мы
Ісці праз ветравей зімы,
Дзе нам не падуладны час,
І дзе ніхто не любіць нас.

•

Ты думаеш пра смерць,
хоць жыць ахвота...
І тут усім, што здохнеш —
напляваць.
І жыць не хочацца, жыццё —
маркота,
Жыццё — пятля, якую не сарваць
І не пайсці, куды пагоніць вецер.
І ты з пятлёй сядзіш, і гэты дом,
Дзе вечна самы шэры
ў свеце вечар,
Не асвяціць ні свечкай, ні віном...
Ты думаеш пра смерць,
нібы пра свята,
Дзе будзеш ты спакойны,
нібы сум
Ліста, што дачакаўся лістапада
І паляцеў праз вецер
і праз тлум...
І паляціш, забыўшыся пра тое,
Што гэтым ты
не перайначыш свет,
Дзе мы жывём, не цэнячы святое,
Дзе божы цень,
як дым ад цыгарэт.

•

Сасновы лес. Туман, нібыта дым,
І цішыня, нібыта час спыніўся.
І купал неба над жыццём маім
Аблокамі, як фрэскамі, свяціўся.
І я стаяў на беразе ракі,
Нібы Харон,
які свой човен страціў.
Ля ног маіх туманныя ваўкі
Ляжалі, іх я, адзінокіх, гладзіў.
І я знікаў з жыцця, нібы са сна,
Які прысніўся мне ў далёкім свеце.
І праз раку засохлая сасна
Ішла і несла на галінах вецер...
І вецер зашумеў. І знік туман,
І час пайшоў і далеч пасвятлела,
І лес зайграў, як велічны арган,
І музыка, нібы анёл, ляцела
Пад купал неба
над жыццём маім,
І ў вышыні бяздоннае знікала,
Так, як знікае
па-над свечкай дым,
Так, як — раса,
што на пясок упала.

•

І гэты снег, і гэта халадэча,
І ветрам разарваны ціхі вечар
Ці ўспомняцца
нам некалі з табой?

І гэты сум, што як віно сухое,
І гэтае наўколле нежывое
Растануць, як аблокі над зямлёй.

І не паўторыцца ўжо больш нічога,
І толькі да цябе адна дарога,
Як цень ад крыжа,
будзе тут ляжаць.

І я прыйду, як дзень апошні ветру,
І што ты скажаш, я ўсяму паверу,
І будзе снег, нібыта смех,
лятаць.

•

...І ў вечным небе вечнасці няма,
Там воблакі — вандроўная зіма —
Плывуць над светам,
дзе гаруем мы,
Чакаючы то лета, то зімы.
І кожны дзень самотны, нібы пыл,
Бы кветкі звялыя каля магіл,
Дзе нас чакае іншае жыццё,
Куды ляцім, нібыта з дрэў лісцё,
І ў гэтым свеце нас няма даўно,
Мы небам выпіты, нібы віно,
Якое не ратуе ад пакут,
Якое рай, якое божы суд.

Віншуем!

# Ігнату ДУБРОЎСКАМУ — 90

Ігнат Цімафеевіч Чарняўскі нарадзіўся ў вёсцы Дуброва цяперашняга Смалявіцкага раёна. Па назве роднай вёскі і ўзяў сабе літаратурны псеўданім — Дуброўскі. Пасля заканчэння сярэдняй школы загадваў магазінам спажывецкай кааперацыі, працаваў справаводам сельсавета, загадчыкам аддзела прапаганды, сакратаром райкома камсамола ў Астрашыцкім Гарадку. Пасля службы ў Чырвонай Арміі (1928—1929) скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1931) і аспірантуру пры Усесаюзным інстытуце эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве (1937). Некаторы час быў намеснікам дырэктара гэтага інстытута, а пасля загадваў сектарам аграрных праблем Інстытута эканомікі Акадэміі навук БССР. У час вайны І. Дуброўскі камандаваў батарэяй, быў цяжка паранены, зведаў жахі фашысцкага канцлагера ў Франкфурце-на-Майне. У пасляваенны час вярнуўся на ранейшую працу і да 1976 года загадваў сектарам аграрных праблем Інстытута эканомікі, стаў кандыдатам сельскагаспадарчых навук.

Як і пераважная большасць пісьменнікаў, І. Дуброўскі ў 1927 годзе пачаў сваю творчую працу з вершаў, але поспеху дасягнуў як нарысіст, празаік-дакументаліст. Аўтар аповесцяў "Зямля маладзее" (1952), "Зямныя вузлы" (1967), зборнікаў апавяданняў "Радня" (1954), "Паўз самыя вокны" (1961), кніг нарысаў "Светлы шлях" (1959), "Да долі чалавечай" (1970), "Гамоніць Палессе" (1977), "На новыя кругі" (1980), "Час сеяць і час жаць" (1982), "Красная хата не толькі пірагамі"(1988)... Прыхільна была сустрэта і кніга І. Дуброўскага "Нялёгкі хлеб" (1990), у якой ён павёў гаворку пра жанр нарыса, якому аддаў дзесяткі гадоў натхнёнай і плённай працы. А да ўсяго І. Дуброўскім напісана нямала навуковых прац па праблемах развіцця сучаснай сельскай гаспадаркі.

Лёс аказаўся да Ігната Цімафеевіча надзіва шчодрым. Канечне, нямала давялося зведаць, перажыць цяжкага і скрушнага, ды рэдка ўдаецца дажыць да такіх шаноўных гадоў. І не толькі дажыць! І. Дуброўскі сваё 90-годдзе сустрэў, як кажуць, у актыўным творчым страі. Пацвярджэнне таму — завершаны рукапіс кнігі пра выдатнага беларускага вучонага А. Жэбрака. Сведчанне гэтаму — і новыя старонкі, над якімі ён шчыруе плённа і апантана.

З днём нараджэння, Ігнат Цімафеевіч! Няхай Вам жывецца яшчэ столькі, колькі Богам дадзена, а мы, прыхільнікі Вашага яркага, самабытнага таленту, з нецярпеннем будзем чакаць сустрэчы з Вашымі чарговымі творамі!

Ігнат ДУБРОЎСКІ

# ПАКАЯННЕ САМАГУБСТВАМ



АПАВЯДАННЕ-БЫЛЬ

Павел Андрэевіч Зарэчны, заслужаны работнік культуры, вядомы сваім творчым укладам у беларускую музыку, мае невялічкі дачны ўчастак у раёне Заслаўя. Ён часта ходзіць на шпацыр са сваім любімым сабакам Шарыкам. Іншы раз заходзіць і да нас пасядзець, пагаманіць па-суседску. Гаспадыня нашай дачы, Вера Дзмітрыеўна, не прамінае выпадку пачаставаць Шарыка костачкамі, назбіранымі на кухні. Шарык вельмі любіць гэтыя пачастункі, асабліва курыныя. Бывала, што не гаспадар вёў Шарыка на ланцужку, а Шарык цягнуў яго да нас, каб паласавацца костачкамі.

Ён еў костачкі з асаблівым смакам. У яго вострыя зубы і іклы, моцныя, як жалезныя, скіўіцы. Костачкі на яго зубах хрумсцелі са звонам.

З'еўшы костачкі, ён смачна аблізваўся, па-сабачы ласкава глядзеў на гаспадыню, удзячна павільваючы пышным прыгожым хвастом.

У Шарыка была свая этыка ў адносінах да людзей. Ён дзяліў людзей на сваіх, на сваіх, але добрых, і на чужых нядобрых. Сваімі людзьмі былі гаспадар і яго сямей-ныя; за несваіх, але добрых, ён лічыў тых людзей, з якімі яго знаёміў гаспадар; усе астатнія — чужыя. Да сваіх Шарык ставіўся самааддана да неабмежаванасці. Да несваіх — са стрыманай насцярожанасцю, а да чужых — з беспрычыннай варожасцю.

Нашу гаспадыню, як і ўсю нашу сям'ю, Шарык адносіў да несваіх, але добрых. Аднаго разу, калі гаспадыня пачаставала яго костачкамі і ён, схрумстаўшы іх, удзячна павільваў хвастом, яна хацела пагладзіць яго па галаве з такімі прыгожымі натапыранымі вушамі. Шарык нечакана гыркнуў і злосна кляцнуў зубамі. Моў, не чапай мяне! Я не прызнаю ніякага панібрацтва ні з кім, апрача свайго гаспадара і яго сямейных. Ты пачаставала мяне костачкамі, я падзякаваў табе віляннем хваста і ласкавым зазіраннем у вочы. І мы квіты. Гэтым і абмяжоўваюцца нашы адносіны. Такая ў яго была сабачая этыка.

Павел Андрэевіч трымаў Шарыка не з любові да сабак, а па гаспадарчай патрэбнасці. Дачныя сады і агароды часта латашылі падлеткі. Не паспеюць завязацца агуркі, паспець ягады, наліцца яблыкі і слівы, як у адну ноч усё гэта можа знікнуць, з варварскім пашкоджаннем дрэў, кустоў і градак. Усё здрапежаць. А ў апошнія гады, у гады перабудовы, дачы сталі абіраць зладзеі-прафесіяналы. Па восені, калі дачнікі пакідаюць свае дачы ад выхаднога да выхаднога, уначы прыязджаюць на грузавіках рабаўнікі, забіраюць хатнія рэчы — халадзільнікі, газавыя пліты і балоны, тачкі, агародныя прылады, выграбаюць са скляпоў бульбу, яблыкі, кансерваванні і саленні, бутлі самаробнага фруктовага віна.

Такая пагроза навісла і над дачай Зарэчных. У садовых таварыствах барацьба са зладзеямі вялася арганізавана. Таварыства агулам наймала вартаўніка, узбройвала яго паляўнічай стрэльбай і ён уначы стрэламі пужаў зладзеяў. Дача Зарэчных мясцілася адасоблена на невялічкай лясной палянаўцы, акружанай густым маладым саннікам у перамешку з бярозкамі. Наняць вартаўніка на адну дачку не выпадала, і Зарэчны вырашыў набыць сабаку. Павел Андрэевіч ведаў, што купляць дарослага сабаку ня варта. Сабака ніколі не забывае свайго першага гаспадара. Пры зручным выпадку ён збяжыць ад новага гаспадара да свайго ранейшага.

Зарэчны купіў у адной бабулі чатырохмесячнага шчанюка. Назвалі яго Шарыкам.

Шарык хутка прывык да сям'і Зарэчных, асабліва прывязаўся да гаспадара. Як малое дзіця, любіў гуляць з дзецьмі. Качаўся з імі па траве, тармашыў іх за адзенне, прытворна "кусаў" іх за рукі і ногі, насіўся наўздагон за матылькамі. Ён хутка прывык да свайго імя, да санітарных умоў, да сумеснага жыцця з чалавекам. Ён ведаў, у якім кутку стаіць яго скрыначка, і акуратна карыстаўся ёй.

Чым больш сталеў Шарык, тым пільней стаў наглядаць і прыслухоўвацца да навакольнага асяроддзя. Вядома, што сабака мае вельмі тонкі нюх, ён можа адрозніць кожнага з пяці мільярдаў чалавек, якія жывуць на Зямлі. Толькі блізнят не можа адрозніць аднаго ад другога, можа, таму, што яны пахнуць аднолькава.

Шарык рана навучыўся адрозніваць сваіх ад чужых. Убачыўшы паблізу дачы ці пачуўшы нюхам каго чужога, ён уздымаў вушы радарамі і брэхам даваў знаць гаспадарам аб набліжэнні чужога.

Так непрыкметна, за год Шарык ператварыўся ў сталага сабаку і добрага вартаўніка дачы. Такая ў яго кароткая і не вельмі багатая біяграфія. Затое ён быў багатага роду. Была ў яго і племянная прыналежнасць, як скажам, у людзей прыналежнасць этнічная. Шарык паходзіў з пароды нямецкіх аўчарак, сабак рослых і прыгожых, знешне падобных да ваўкоў. Характар у сабак гэтай пароды адважны, востры і рашучы, самаахвярная адданасць сваім гаспадарам.

Продкі Шарыка пасябравалі з чалавекам у самай даўняй старажытнасці. Людзі ў той час харчаваліся рознымі раслінамі, карамі, пладамі, мясам дзікіх звяроў, птушак і рыбы, на якіх палявалі. Не ўсё здабытае чалавек мог спажыць сам. Заставаліся адыходы — косці, капыты, частка ўнутраных органаў, якія выкідваліся за межы часовых стойбішчаў племені. Дзікія сабакі зграямі падыходзілі ноччу да стойбішчаў і жывіліся адкідамі чалавечай ежы. Такім чынам, воляй-няволяй, сабакі сталі ахоўваць чалавека. З набліжэннем драпежных звяроў, якія любілі паласавацца чалавечым мясам, сабакі ўздымалі дружны брэх, якім папярэджвалі людзей аб небяспецы. Чалавек зразумеў паслугу сабак і стаў наўмысля падкормліваць іх, а з часам прыручаць да сумеснага жыцця.

Прыручэнне сабак прывяло да павелічэння іхніх абавязкаў. Сабакі сталі скарыстоўвацца на паляванні. Яны лёгка знаходзілі звяроў, падганялі іх да паляўнічых. А калі чалавецтва дайшло да дзяржаўных форм існавання, сабакам даручылі несці дзяржаўную службу. Вядома, што ў старажытным Рыме сабакі вартавалі храм Юпітэра і іншыя важныя дзяржаўныя аб'екты. Сабакі былі вартаўнікамі храмаў і ў Старажытнай Грэцыі. А калі між народамі і дзяржавамі пачаліся войны, сабакі неслі і вайсковую службу, яны ўдзельнічалі і ў баявых аперацыях. Цар старажытнай Персіі Камбіз у заваёве Егіпта ў 525 годзе да нашай эры напускаў зграі сабак, у якіх на металічных ашыйніках умацоўваліся вострыя нажы, на войска праціўніка.

І сёння сабакі нясуць пагранічную службу, служаць у органах дзяржаўнай бяспекі, вядуць следчыя работы — па паху слядоў і рэчаў знаходзяць злычынцаў, гандляроў наркотыкамі, зладзеяў. Служылі сабакі і ў якасці паштальёнаў, нават у перапісцы на амурныя тэмы.

Такая багатая, гераічная і ганаровая радаслоўная ў Шарыка. У яго ж самога служба даволі простая — ахова маёмасці сваіх гаспадароў. Днём Шарыку няма чаго рабіць. Рэдка хто заходзіў на дачу ці праходзіў міма. А калі хто з'яўляўся паблізу, то ён гаўкне раз-другі, перасцярожыць гаспадароў і зноў ляжыць, паклаўшы галаву на выцягнутыя лапы, і наглядае за работай гаспадароў у агародзе.

У мінулым годзе рабіўся рамонт дачы. На дачу гаспадар прывёў двух новых чалавек. Ён пазнаёміў Шарыка з імі. Шарык прыняў іх за несваіх, але добрых людзей і, лежачы на сонцы, сачыў за іхняй работай. Наглядаў, як яны надзявалі на рукі брызентавыя рукавіцы, сыпалі з мяшкоў штосьці ў скрыню, налівалі вады і перамешвалі рыдлёўкамі. Іншы раз будаўнікі надзявалі брызентавыя рукавіцы, бралі сякеры і ішлі ў лес высекчы жэрдачку ці які колік. Шарык ішоў за імі і там, лежачы, наглядаў за іхняй работай. Цяжка сказаць, як разумеў Шарык работу людзей, але назіраў за ёй з відавочнай цікавасцю.

Аднаго разу, калі рабочыя скончылі работу і пайшлі дамоў, Шарык убачыў ля варот брызентавую рукавіцу. Ён, мусіць, падумаў, то будаўнікі згубілі яе. Узяў рукавіцу ў зубы і хацеў несці ў лес, на тое месца, дзе рабочыя секлі дрэўцы. Зарэчны, убачыўшы, што Шарык кудысьці хоча несці рукавіцу, прыкрыкнуў на яго:

— Шарык, кінь рукавіцу!

Шарык не паслухаўся. Павел Андрэевіч узлаваўся, ухапіўся за рукавіцу, спрабуючы вырваць яе з зубой сабакі, патрабуючы:

"Шарык, аддай рукавіцу!"

Шарык моцна сцяў зубы, прысеў, упёршыся пярэднімі лапамі ў зямлю, упарта не выпускаў рукавіцу з зубоў. Зарэчны з усёй сілы тузануў рукавіцу і вырваў яе з зубоў сабакі. Шарык ашчэрыўся, на яго спіне хібам узнялася поўсць, ён злосна гыркнуў і цяпнуў гаспадара вострымі іклами за руку ніжэй локця. Пад зубамі яго трэснула скура, з рукі пырснула кроў... Зарэчны хацеў уцяць Шарыка нагой, але ён адскочыў у бок і, спуджана гледзячы на гаспадара, на яго акрываўленую руку, задам, задам адступаючыся ад яго, павярнуўся і, падтуліўшы хвост, пацягнуўся ў лес.

Зарэчнаму было ўжо не да Шарыка, трэба было хутка звяртацца да ўрача, на ўколы. Хто ведае, можа, Шарык ашалеў.

Калі Павел Андрэевіч дзён праз пяць вярнуўся на дачу, Шарыка дома не было. Сямейныя яго сказалі, што ўсе гэтыя дні Шарык не з'яўляўся, можа, збег куды. Гаспадар пайшоў у лес і знайшоў сабаку пад маладой ялінкай. Шарык ляжаў, як нежывы, паклаўшы морду на выцягнутыя пярэднія лапы. Вочы яго былі заплюшчаны. Ён дужа схуднеў, бакі апалі, поўсць пакалмацілася, злямцавалася, прыкметна выступалі рэбры.

— Шарык, Шарык, уставай, хадзем дадому, — тармашыў гаспадар яго за загрывак, але ён ляжаў нерухома, ні адна варсінка на ім не здрыганулася.

Зарэчны паспрабаваў падняць яго на рукі, але не змог адной рукой адарваць яго ад зямлі. Ён пайшоў дамоў і прынёс Шарыку ежы — суп з кавалачкам мяса і з костачкай — яго любімая страва. Колькі ні ўпрошваў ён сабаку ўзяць ежу, той нават не зварухнуўся, як бы нічога не чуў. Ён пакінуў ежу і пайшоў дамоў.

Назаўтра, калі ён прыйшоў да Шарыка, суп у місачцы стаяў некрануты, а сабака ляжаў у той жа нерухомай позе. Зноў на просьбы гаспадара Шарык не паварухнуўся. Павел Андрэевіч стаў гладзіць яго па галаве і ўпрошваць узяць страву. Шарык узняў галаву, неяк адчужана і разам з тым скрушліва-вінавата зірнуў на гаспадара і абвяў. Стравы і ў гэты раз ён не прыняў.

Відавочна было, што Шарык гіне, гіне самахоць, самагубствам. Зарэчны ўстрывожыўся. Трэба ратаваць сабаку. Ён так-сяк узняў схуднелага знямоглага Шарыка на рукі і прынёс у свой дворык. Ён сядзеў ля сабакі, лашчыў яго і ўпрошваў забыць тое, што здарылася, што ён невінаваты ў гэтым, ён, гаспадар, цяпер ведае, што Шарык з добрым намерам нёс рукавіцу ў лес. Ён зноў пакінуў яму страву.

Назаўтра раніцай, калі Павел Андрэевіч падышоў да Шарыка, то ўбачыў пустую, вылізаную місачку. Сабака адплюснуў вочы, зірнуў на гаспадара і слаба вільнуў хвастом. З таго дня Шарык стаў есці і пакрыху папраўляцца. Ён зноў па-ранейшаму быў вясёлы і ласкавы да гаспадара, цёрся галавой аб яго ногі, пяшчотна павіскваючы, віляў хвастом. Сяброўства іх аднавілася ва ўсёй чысціні, як бы між імі нічога дрэннага не было.

Як зразумець паводзіны Шарыка? Вучоныя сцвярджаюць, што толькі чалавек ведае, што ён памрэ, усе астатнія віды жывых істот не ведаюць, што яны смяротныя. Калі б гэта было так, то заяц ніколі не ўцякаў бы з усіх ног ад ваўка, сабакі ці савы. П. Гурвіч у сваёй кнізе "Куды ідзеш, чалавек?" піша: "Жывёльная асобіна не здольна на самагубства, як гэта ўласціва мысліцельнаму стварэнню". Шарык абвергнуў гэту тэзу.

Сапраўды, каб прыйсці да такога ўчынку, на які наважыўся Шарык, трэба мысліць. А ці мог ён мысліць? Чалавек мысліць словамі, паняццямі. У Шарыка няма ні слоў, ні мовы. Ён разумее некалькі чалавечых слоў: "Шарык, ляж!", "Шарык, — нельга!", "Шарык, ідзі сюды!". Ён разумее гэтыя каманды і пакорна іх выконвае.

Можна меркаваць, што Шарык думае вобразамі, уяўленнямі, адбіткамі ў яго мазгах карцін бачанага. У пэўнай лагічнай сувязі гэтых з'яў, нейкім чынам дзяліў іх на добрыя і нядобрыя, на станоўчыя і адмоўныя. І ставіўся да іх у сваіх паводзінах адпаведным чынам, як рэагаванне на іх.

Шарык адчуў, як пад яго вострымі зубамі трэснула скура на руцэ гаспадара, бачыў, як пырснула і пацякла кроў, чуў, як ён войкнуў і балюча зморшчыўся, як узмахнуў нагой, каб ударыць яго. Але ён, Шарык, быў перакананы, што нічога дрэннага не зрабіў. Ён нёс рукавіцу рабочым. Нашто ж гаспадар перашкаджаў? А калі прыйшоў у лес і ўбачыў, што рабочых там няма, што ён дарма нёс ім рукавіцу, то адчуў сябе вінаватым, зразумеў, што зрабіў подлы ўчынак самаму блізкаму, самаму дарагому чалавеку. Ён рашыў, што не мае права жыць пасля такой падзэсці.

Так можна разважаць, меркаваць, а як гэты працэс праходзіў у Шарыка, застаецца загадкай. Адным словам, жывёльны свет, псіхалагічны склад жывёлы, калі можна так сказаць, не такі просты, як нам здаецца.

Вучоныя сцвярджаюць, што між чалавекам і жывёлай, з якой ён мае справу — сабака, конь, карова і інш., — існуе тэлепатыйная сувязь праз выпраменьванне мазгамі радыёбіялагічных хваляў. Праз гэта выпраменьванне між чалавекам і жывёлай устанаўліваюцца пэўная адаптацыя, паразуменне. Калі гэта так, то можна меркаваць, што Шарык успрыняў, інтуітыўна адчуў, што гаспадар дараваў яму злосны ўчынак. А калі гэта так, то самагубства траціла сэнс, і ён прыняў страву.

А ў Паўла Андрэевіча хапіла сілы волі і розуму адкінуць крыўду на Шарыка. Ён зразумеў, з якім намерам Шарык нёс рукавіцу ў лес. Шарык быў перакананы, што робіць добрую справу, і калі ён вырваў у яго рукавіцу, у Шарыка з'явіўся востры прыступ пратэсту супраць несправядлівасці, які абудзіў у яго атавістычнае пачуццё звера і ён укусіў гаспадара за руку.

Жывёльныя істоты не такія простыя, якімі мы іх успрымаем. Выпадак з Шарыкам пераконвае, што адносіны чалавека да ўсіх відаў жывёлы павінны быць чалавечнымі, за выключэннем хіба злосных драпежнікаў. Але і драпежныя звяры, як сведчаць многія факты, адыгрываюць пэўную станоўчую ролю ў эвалюцыі жывёльнага свету. Недарма ваўкоў называюць санітарамі лесу. Стаўленне да гэтых звяроў павінна мець характар абароны ў выпадку іх нападу на чалавека ці яго жывёлу. Да прыручанай, хатняй жывёлы трэба ставіцца не як да бязмоўных, механічных служак, а як да істот, у якіх ёсць паразуменне з чалавекам, нешта накшталт узаемнай дабрачыннасці, можа, інтуітыўна запазычанай у чалавека. Чалавеку з усім жывёльным светам трэба суіснаваць.

# “КАБ ВЫ ЗНАЛІ, ШТО ЧАЛАВЕК БЯССМЕРТНЫ...”

Баба Маня паўтарыла гэта ў камеру. Адвярнулася. А пра тое, што таленавіта жыць трэба, не паўтарыла. Пра гэта сцэнарыст і вядучы Віталь Сямашка ўзгадаў, шкадуючы, маўляў, і патрапіла ж сказаць чарнобыльская бабця Маня, ды камеры першы раз не было...

Першы раз — гэта калі да здымак фільма “Аазіс” яшчэ прымерваліся. Тры гады таму. Сёлетнім красавіком гэты “Аазіс” узнік на экранах хатніх тэле... усё адно як з прадоння, альбо з абшару чарнобыльскай катастрофы — асэнсавання, адлюстравання мастацкімі сродкамі яе, катастрофы, дзесяці гадоў. Фільм адразу ж паўтарылі па ОРТ. А тры гады таму...

“Едзем і маўчым. — Віталь то блазнуе, то паспешліва сур'ёзнее. — Вакол гарыць зямля. Кожны год гарыць. “Хто падпаліў?” — пытаем. Мясцовыя. Каб у Мінску... не забыліся. Пра зліквідаванне катастрофы. Бо няма ёй канца. Да Гомеля ніхто слова не сказаў”.

Фільм рэжысёра Юрыя Хашчавацкага, а ён супольна з Віталем Сямашкам і сцэнарый пісаў, — не пра Чарнобыль у звыклым яго атачэнні. Без немых крыкаў нацыянальнае роспачы. Без попелу, які стукае — не дастукаецца ў чыесьці сэрцы, пераймаючы з класікі літаратуры. А пра месца, дзе чалавеку... наканавана вызначыцца. Пра месца, якое з зоны адчужэння, адчужэння “ператвараецца ў краіну веры ды надзеі. Вольнасці.” У аазіс? У “Аазіс”...

“І ніхто не спасецца, калі Божа не спасець”, — мармыча бабулька ў закадравым пачатку. Пад кадры хронікі чарнобыльскага пажару. На даху рэактара. Іх неўзабаве Сямашка пракаментуе — менавіта ўбранне, апранашкі, у якіх салдаты выбіраліся на той славуты дах: “Гімнасцёрка, зверху камізэлька, твар адкрыты...” І — “ніхто не спасецца”?..

“Аазіс” — зусім не юбілейнае кінанаступства катастрофы. Выбіраюцца, называюцца факты, а рэжысёр, здаецца, арганізуе іх цвёрдым — метраномным ходам. Кадры адшчоўкваюцца, хоць дазіметр, сціпла з'явіўшыся на колькі хвілін (камера хістаецца), не назаляе жахам рэнтгенаў. Не дазіметр — іншая нейкая прылада трымае тэмп і рытм фільма. Блізкая да чалавечага сэрцабіцця прылада... Так з'яўляецца (заяўляецца?) на экране прывід таямніцы самой зоны.

Факты ў фільм збіраліся па-майстэрску. Перад усімі — аперацыя Міністэрства ўнутраных спраў “Мак-95”, “з мэтай выявіць наркатычна-сыравінавую базу ў трыццацікіламетровай зоне”, афіцыйная падстава здымачнай групе туды трапіць і там быць. Стрыжаныя салдацікі ў гімнасцёрках (як пэўна называецца новая шэрая форма?), нават без камізэлек. Здымачная група — рыхтык як салдаты, прадзюсер Юрый Цыбін проста губляецца ў шэрагах...

Вёска Баравая і стараверы з цэлым скарбам вываў ды рэліквій боскіх. Божых, прабачце. Збіраюцца абедаць. Пакуль бамбіза Сямашка ды неслабы Хашчавацкі ладзяць бабці плот, Вера Багальянц (прадзюсер, прадстаўнік Інстытута Гётэ ў Мінску) са сваім мілагучным нямецкім акцэнтам тлумачыць, што “вось, зварыла”. Абед з грыбамі. З самагонкай.

Васемнаццаць сем'яў з “гарачых кропак” апынуліся ў зоне па сваёй волі: “Мы такое бачылі, што нам усё адно, дзе жыць”. Буйныя планы дзяцей, — яны не жоглы, не гарэзы. Сціплыя дзеткі, гушкаюцца на плоце, здаецца... Расповяд пра армянскі землятрус. Пра карабахскі канфлікт. Вялікія жаночыя вочы: “Абіканавенны вайна, как 41 год...” Сямашка за кадрам: “Людзі ўцякаюць ад вайны ў зону радыяцыі...”

Беларуская бабулька ў ахайнай, па-майстэрску сплеценай камізэльцы: “Хто нас дзе возьме...”

Піянеры (1995!) Краснаполля, заўжды гатовыя. На якую ахвяру? Кветкі да помніка. Мужчына й жанчына — старэцкае ўбранне, з выгляду — жабракі, тамсама, ля піянераў. Тамтэйшыя ветэраны: выпраўка, годнасць, гатоўнасць нумар адзін...

Мікалай Фёдараў, дырэктар экалагічнага запаведніка, стваральнік... чарнобыльскага аазіса, — той, хто атрымаў у зоне чысты прадукт! Гаворка пра прадукт спакойная, узважаная, — магчыма, сёлета ўжо той аазіс з прадуктам можа “дайсці да калючага дроту”, — пашырыцца на кіламетры... Фёдараў, чыя група... не мае права працаваць, бо няма ні рыштунку, ні начыння адпаведнага, ні пэўных сродкаў.

...Пасля таго, як “Аазіс” адкрыў Мюнхенскі кінафестываль, пасля таго, як быў прадстаўлены найшырокай аўдыторыі нямецкім тэлевізійным ART-каналам, у Фёдарава пэўна будзе пажарная машына. Для зоны, спецыялізаваная. Немцы так уважліва глядзелі беларускае кіно, што нават рэплікі пра брак тэхнікі не прапусцілі. І набылі гэтую даражэнную машыну, і прадзюсеру Цыбіну ўжо паведамілі. А сам Фёдараў, адметна прыгожы, стомлены хлопец, ці ходзіць яшчэ, як казаў у фільме, з компасам па зоне? Ратуючыся ад “мін'юстаў, мінфінаў ды мінчарнобыляў”...

Ратуючыся? Гучна сказана? Ён... душу ратуе. Бо гэта мы цяпер можам быць упэўнены, што Андрэй Таркоўскі нам, людзям мясцовым ды тутэйшым, прарочыў сваім “Сталкерам”, але ці атаясаміць сябе хто з ім? Юрый Хашчавацкі ніякіх буйных асацыяцый пад Фёдарава не закладае. Выглядае малады чалавек... стомлена, але не загадкава-іншабытна. Толькі справа ў яго — дагляданне, пеставанне зямлі, ашчаджэнне на сабе ў аднаўленні прыроднай раўнавагі — загадкавага кшталту. Падрабязнасці трагедыйнага зонавага краявіду, узбуйненыя камерай, ужо не хаваюць сваёй дзівоснай, аднолевай жыццёвай гнуткасці. Дырэктар Фёдараў, паволі адабраўшы існую глядацкую сімпатыю, цвёрдай рэжысёравай рукой... не ў бок адсоўваецца, а, дакладней, у перспектыву. У пэўную, але загадкавую перспектыву зоны. Яна, перспектыва, палыхне ў фінале фільма — промнямі восеньскага сонца на шкле вайсковай машыны, — здымачная група пакідае зону...


*Віталь Сямашка бярэ інтэрв'ю ў маёра Аляксандра Сліжыкава (Хойніцкі РАУС).*

Мікалай Фёдараў, безумоўна, зусім не вострахарактарны. І не такі каларытны, як выбітны шанцунак групы — бомж Валодзька Кандакоў, паўнамоцны бадзяга замежнай чарнобыльскай краіны, бо прыйшоў з Масквы і толькі ад здымачнае групы даведаўся, што прэзідэнтам у нас ужо не Гарбачоў, што мы цяпер — кожны са сваім прэзідэнтам. Мікалай Фёдараў — безумоўны інтэлектуальны полюс фільма. Яны з Кандаковым нідзе не сутыкаюцца наўпрост, але Кандакоў нітуе фільм, выдае на гэткую інтэрмедыйную застаўку чарнобыльскай містэрыі, на гэткую свяшчэнную пародыю трагедый тутэйшых, тамтэйшых, усюдных. Распальвае ў печы старонкамі Фолкнера, разважае то пра хату (“хто будзе будаваць сваю хату чужымі рукамі”?), то пра рэлігію, грошы, пра кайф, міліцыянераў, радзіму, батаніку, біяматыю і дыплалогію, спявае песні на свае вершы і, ахвотна прымаючы дзесьці за кадрам кілішак-другі, часам падыгрывае рэжысёру. Артыстычная натура! Між тым (адметнасць фільма і ў гэтым) ён першы ўголас кажа пра волю, якую ўтрымлівае і дае зона. Містычная нота! Загадкавасць прыцягнення зоны, якая мае ўжо свой аазіс, ачышчанасць ледзь не да першароднасці! І паўтаруся. Фільм, нягледзячы на каларытнага адмыслоўца Кандакова і ягонае шчыраванне перад камерай, — разлічана-метраномны, метраномна вышчаўканы, дазіметрам вымераны. Бо інакш — у слімзарах — нічога не запомніць не асэнсаваць. Але таямніца зоны трапіла ў кадр. (Аператары — С. Фрыдлянд, Ю. Гарулёў, У. Пранько, Ю. Хашчавацкі). Не выслізгнула з-пад уладарных пальцаў на мантажы. Напружана і празрыста трымае гукавы шэраг карціны “Госціца” і адметная музыка Ларысы Сімаковіч; Францэска дэ Мілана далікатна пераймае і здымае напружанасць кадра. “Песня пра дарогу” ў выкананні Валодзькі Кандакова суправаджае палымяную перспектыву — зоны і яе адлюстраванне на шкле бронетранспарцёра. Група пакідае зону...

“Каб вы зналі, што чалавек бяссмертны”, — сказала баба Маня ў камеру. Адвярнулася. Набрала паветра. Патлумачыла пра душу. Віталь за кадрам неўзабаве абвесціць, што няма ўжо бабы Мані, не перажыла зімы, але выява старой жанчыны не хутка мяняецца іншаю выявою. Затрымліваецца. Каб спазнаць, што чалавек такі, нам трэба зазнаць і спазнаць Чарнобыль?..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота з архіва Юрыя ЦЫБІНА*

Музыка

# У НОВЫМ АМПЛУА

У бурным музычным жыцці Мінска, дзе, што ні дзень — то якая-небудзь падзея, наўрад ці можна асабліва здзівіць публіку. Аднак аматары класічнай музыкі, якія пабылі на канцэрце Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам дырыжора Міхаіла Снітко, былі прыемна ўражаныя саліднай праграмай канцэрта і добрым выкананнем.

Што гучала? Уверцюра да оперы “Сіла лёсу” Д. Вердзі, Канцэрт Мендэльсона для скрыпкі з аркестрам мі мінор (опус 64), а “цэнтрам” праграмы, безумоўна, была Пятая сімфонія П. Чайкоўскага.

У час напісання сімфоніі (1888 г.) Чайкоўскага хвалявалі праблемы чалавечага быцця, этыкі, філасофская асэнсавання жыцця. Паглыбленне трагічнай тэмы, барацьба з “рокам”, паглыбленне прынцыпу псіхалагічнага ўвасаблення, канфлікту — такія асноўныя рысы гэтага твора. Аб'ядноўвае яго вобразны свет тэма ўступу, якая, відазмяняючыся, трансфармуючыся, праходзіць праз усю сімфонію. Узрушыла сваёй музычнай выразнасцю Andante, дзе адчуваецца велічны размах і разам з тым — трагізм, глыбокая чалавечая драма. Ды і пабытавыя формы (вальс, марш) малююць у сімфоніі не жанравыя, а псіхалагічныя вобразы. Вальс — нібы “разрадка” ў драматычным дзеянні, аднак і тут прысутнічае “рок”, які азмрочвае светлыя вобразы. Толькі ў фінале трагічнае тэма “року” ператвараецца ў геройны, трыумфальны вобраз, увасабляючы перамогу чалавека над варожымі яму сіламі, выяўленне мужнасці духу, волю да жыцця.

Опера Д. Вердзі “Сіла лёсу” мае незвычайную гісторыю. У 1861 годзе кампазітар атрымаў прапанову напісаць оперу для Расіі. Шукаючы сюжэт, ён спыніўся на п'есе “Дон Альвара, або Сіла лёсу” іспанскага пісьменніка-рамантыка дона Анхеле Перэс дэ Сааведра. П'еса накіравана супраць прыгнятання іспанцамі народаў Паўднёвай Амерыкі. І опера, за выключэннем народных сцэн, прасякнута змрочным каларытам, “рамантычкай жахаў”, у выніку фатальнага развіцця сюжэта ўсе героі да фінала гінуць. Ва уверцюры да оперы ўражваюць яркі меладызм, псіхалагізм вобразаў ды іх кантрасты, што добра выявіў дырыжор.

Канцэрт Ф. Мендэльсона для скрыпкі з аркестрам надзвычай папулярны як сярод выканаўцаў, так і сярод слухачоў. Кампазітар праявіў тут лепшыя рысы свайго таленту: рэдкасны меладычны дар, пранікнёнасць, тонкі лірызм, вытанчанасць аркестроўкі, гармонію класічнага і рамантычнага. Гэта — гімн жыццю! Душэўныя жыццярадасныя парыванні кампазітара нібы перадаліся выканаўцы Канцэрта — лаўрэату міжнароднага конкурсу Лідзіі Дабржынец. Маладосць, эмацыянальнасць, радаснае ўспрыманне рэчаіснасці, аптымізм, шчырасць, непасрэднасць скрыпачкі ўзрушылі залу. Адкуль у гэтай кволай, юнай дзяўчынкі столькі ўнутранай сілы духу, чалавечых страсцей? Чамусьці прыгадаліся словы Г. Нейгауза: “Мармуровая статуя можа быць зроблена толькі з мармуру, а не з гліны ці гіпсу”. Так! Тут было ўсё сапраўднае, нічога штучнага. Выканаўца паказала думку, пачуццё, выдатную тэхніку, прыгожы, цудоўны гук, глыбокае пранікненне ў задуму аўтара.

Шмат добрых слоў хочацца сказаць на адрас галоўнага “віноўніка ўрачыстасці” дырыжора М. Снітко. Ён мае вялікі выканаўчы вопыт: доўгі час працаваў мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі. А ў гэтым канцэрце выступіў у новым для сябе амплуа — у якасці дырыжора сімфанічнага аркестра, выявіўшы вялікі дырыжорскі талент. Сярод многіх станоўчых якасцей неабходна адзначыць выдатнае веданне партытуры, тэарэтычную падрыхтаванасць, дырыжорскі тэмперамент, мяккі, “напеўны” дырыжорскі жэст, пранікненне ў задуму кампазітара, непасрэднае, шчырае ўспрыманне музыкі, бязмежную захопленасць дырыжорскай справай.

Міхаілу Снітко ўласціва паэтычная адухоўленасць, а таксама адчуванне дынамічных кантрастаў — ад затоенага піянісіма да магутнага фортэ. Асабліва спадабалася мне выкананне пятай сімфоніі П. Чайкоўскага. Відавочна, што музыканту яна блізкая і зразумелая: у дырыжыраванні адчувалася поўная свабода, разняволенасць, яснасць фразіроўкі, адчуванне формы.

Не магу не выказаць і сваё захапленне аркестрам, адметным сваімі спрактыкаванымі высокапрафесійнымі музыкантамі, якія валодаюць сапраўднай выканаўчай культурай і майстэрствам. Вялікі выканаўчы вопыт памагае артыстам аркестра выходзіць з любых “экстрэмальных” сітуацый і перадольваць любыя тэхнічныя цяжкасці.

Застаецца толькі сказаць: выдатны канцэрт!

**Аляксей КАГАДЗЕЕЎ, народны артыст Беларусі**


*На здымку: Міхаіл Снітко*

Віншуем!

# СЫН ЗЯМЛІ БЕЛАСТОЦКАЙ

## САКРАТУ ЯНОВІЧУ — 60

Сакрат Яновіч нарадзіўся 4 верасня 1936 года ў мястэчку Крынкі Беластоцкага ваяводства (Польшча). Пасля заканчэння Беластоцкага электратэхнікума (1955) некаторы час працаваў брыгадзірам электраманцёраў на баваўняным камбінаце пад Беластокам. Калі была ўтворана газета "Ніва", увайшоў у склад рэдакцыі — перакладчыкам, журналістам. У 1960 годзе скончыў завочна аддзяленне беларускай філалогіі Настаўніцкага інстытута ў Беластоку. У 1959—1962 гадах — загадчык арганізацыйнага аддзела Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У 1970 годзе за так званы беларускі нацыяналізм С. Яновіч быў звольнены з рэдакцыі "Нівы", яму давялося пэўны час быць беспрацоўным, затым працаваць грузчыкам, тэхнікам бяспекі працы. Скончыў завочны факультэт польскай і славянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1973). Член саюза польскіх пісьменнікаў з 1970 года. Быў старшынёй Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку (1976—1981).

С. Яновіч — адзін з найбольш вядомых беларускіх літаратараў, якія жывуць на Беласточчыне. Піша па-беларуску і па-польску. З першым апавяданнем выступіў у 1956 годзе ў газеце "Ніва". Кнігі С. Яновіча неаднаразова выходзілі як у Беластоку і Варшаве, так і ў Мінску, а ў Лондане пабачыла свет білінгуальнае выданне (па-беларуску і па-англійску) кнігі "Мініяцюры". На польскую мову С. Яновіч пераклаў кнігу "Вітражы" Я. Брыля (Варшава, 1979), а для Драматычнага тэатра імя Я. Вянгеркі — п'есу Я. Шабана "Шрамы"...



Віншуем Сакрата Канстанцінавіча з 60-годдзем! Зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!

Аляксандр ПУХАЕЎ



**Я ў вас, беларусы, як дома,**
**Душою люблю ваш народ...**

***Такія шчырыя радкі-прызнанні прысвяціў Беларусі асецінскі паэт Аляксандр Пухаеў, які стала жыве ў Віцебску. Ён — аўтар многіх кніг паэзіі, што пабачылі свет у выдавецтвах Цхінвала, Тбілісі, Масквы. Вядомы ён і як перакладчык твораў беларускіх паэтаў на мову вялікага Каста Хетагурава. Не без яго ўдзелу выходзілі ў Паўднёвай Асеціі анталогіі нашай прозы і паэзіі.***

***У пачатку верасня А. Пухаеву споўнілася 70 гадоў. Віншуючы паэта з юбілеем, жадаючы яму здароўя і творчага плёну, "ЛіМ" друкуе яго "Сказанне пра скіфаў" у маім перакладзе.***

**Юрась СВІРКА**

## СКАЗАННЕ ПРА СКІФАЎ

Яно дайшло да нас не з міфаў,
Яно — не выдумка, не зман.
Калісьці пакаралі скіфы
У грознай бітве егіпцян.

І егіпцяне так сказалі:
"Людзей не ведаў свет да нас.
І гэта мы не выдумлялі,
Тут нашы справы супраць вас.

Калі зямля ў вас ледзянела,
Бавоўну грэла ў нас зямля.
Пра вас і свет (мы кажам смела)
Загаварыў пасля, пасля!.."

Ім скіфы адказалі грозна,
У словах праўда не відна:
"Вялі мы першыя баразны,
Пшаніцу сеялі здаўна.

Зямля ж гарэла ў вас жахліва.
І як на ёй застаўся след?
Быў лёс да вас неміласцівы,
Мы першымі прыйшлі у свет!"

І на сваім яны стаялі.
Ніякай згоды не было.
І грозна словы іх гучалі,
Таілі ў сэрцы гнеў і зло.

Памерацца рашылі сілай,
Так азлабляліся яны.
Іх спор заняты і зласлівы
Прывёў нарэшце да вайны.

●

Паслы цара прыйшлі з Егіпта
Да скіфаў. Быў намер тут свой:
"На тыдзень мусім мы спыніцца.
Рыхтуйцеся — чакае бой!"

"Нахабства! — скіфы закрычалі. —
Не быць такому праз гады,
Каб дома ды нам пагражалі,
Бог не адплача нас тады.

Ніколі мы не адступалі,
Памром — нас слава не міне.
Няхай скрыжоўваюцца шаблі,
Мы пераможам у вайне!"

Ды цар Егіпта нестрыманы,
Адправіцца ў паход гатоў.
І гневам быў апанаваны,
Калі ён выслухаў паслоў:

"Гатовы скіфы ў бой. Кляліся:
Свой край у бітве адстаім.
Пагроз, сказалі, не баімся,
Не будзе літасці ў баі.

Вам прынясём у дар пагібель.
Умеем мы перамагаць", —
Сказалі так паслы Егіпта
Цару. Нявесела казаць.

Адзін з паслоў закончыць слова
Сваё не ўспеў. І тут пры ім
Кастры успыхнулі пунсова,
І скрозь павіс над краем дым.

Не зналі скіфы прымірэння,
Разбілі раць. Скрозь подых тла.
Зямля, нібыта ў дзень стварэння,
Пустыняй попельнай была.

З дабром вярталіся, вядома.
О, скіфы — воіны яны!
Ды не пайшлі яны дадому:
Адной замала ім вайны.

Пайшлі на ўсходнія краіны,
Нажывы прага павяла.
Хто мог паўстаць такой лавіне:
Страшэннай сіла іх была.

У страху людзі гнулі спіны:
"За што такое гора нам?"
Плаціла Азія даніну
Ім, скіфам, грозным ваярам.

●

Аж дваццаць год прайшло ў трывозе,
А скіфы не ішлі з вайны.
Нібы прапалі у паходзе,
Ніхто не ведаў, дзе яны.

І ўсё-ткі дома іх чакалі.
Марудна, цяжка час ішоў,
Ды жонкі замуж не спяшалі,
Не ганьбілі сваіх мужоў.

З гадамі мусілі згадзіцца:
Не быць ужо мужам жывым.
Іх род не можа аднавіцца,
Калі не выйсці замуж ім.

Тады ж і выйшлі (каб жыць лепей)
За маладых сваіх рабоў...
І дзеці бегаюць па стэпе,
У ачагу цяпельца зноў.

●

Гады мінаюць неўпрыкметку,
Падзеі зменаю ідуць.
Ад скіфаў так жадана вестка
Дайшла дамоў: яны жывуць.

І хутка вернуцца ў старонку,
Здабычы многа прывязуць.
І затрывожыліся жонкі,
Начамі не маглі заснуць.

Адчулі, што ім не даруюць
Мужы, і дзеці, і радня.
За здраду жонак не шануюць.
Не ўбачыць сонца ім і дня.

Тады яны сышліся разам,
Жанчыны і мужы-рабы.
Сказалі: "Трэба ўсім нам ладам
Прыдумаць штосьці. Што рабіць?..

Не, не даруюць нам мужчыны,
Галовы трэба ратаваць.
Калі яно, яшчэ магчыма,
Дабро патрэбна зберагаць".

Дзе мора сходзіцца з зямлёю,
Рашылі так (інакш не жыць!) —
Траншэю выкапаць такою,
Каб скіфам шлях іх перакрыць.

Ва ўсіх былі напяты жылы.
Смяротны бой яны вялі.
Сваіх рабоў і жонак мілых
Адолець скіфы не маглі.

Не знаді скіфы, як змагацца.
Вось і вярнуліся дамоў;
Ім не цярпелася дабрацца
Да сем'яў і да ачагоў.

Іржалі коні, стэп пазналі.
Спявалі воіны-мужы.
Калі ж рабы прад імі сталі,
Не зналі, пець ім ці тужыць.

Глыбокі роў, як ратаванне,
За ім рабы, іх шмат, рабоў,
Гатовых пасці у змаганні
Ды не пусціць гаспадароў.

А скіфы дружна насядалі.
Стагнала сеча. Страх глядзець.
Ды іх рабы не адступалі,
Стаялі, храбрыя, насмерць.

●

Аж дваццаць дзён там кроў лілася,
Цякла смяротнаю ракой,
І ноччу бойка там вялася,
І гіблі людзі з двух бакоў...

Люцелі скіфы ў родным краі,
Ды не маглі рабоў разбіць.
Хтось разумнейшы ім параіў,
Патрэбна бітву супыніць.

"Падумаць трэба, што такое,
Не на прагулцы мы былі.
Хто сустракае дома зброяй,
Калі з паходу мы прыйшлі?

Не справяцца ўсе шаблі з імі,
Патрэбна хітрасцю іх браць.
А не — бясслаўна мы загінем.
Ніхто не ўспомніць нашу раць!"

Нарэшце скіфы зразумелі,
Што супраць іх рабы — сцяной.
Іх разагнаць, разбіць хацелі,
Аднолькава жорстка за разбой.

Але адчулі, што прысталі,
У бітве не здалець рабоў.
І бізунамі замахалі —
Такая зброя ўладароў!"

І на рабоў пайшлі. Крычалі
І гнеўна гікалі яны.
Ды палкі, біць рабоў, не бралі —
Адно свісталі бізуны.

Рабы адразу пацішэлі,
Згас ваяўнічы дух і гнеў:
Пакорна на паноў глядзелі,
Ніхто змагацца не хацеў.

Рабы кідалі зброю, латы,
Схілялі да зямлі чало.
Альбо ўцякалі ад расплаты.
І бітвы, як і не было.

Рабам і жонкам даравалі,
Так скіфы думалі пазней:
Дарэмна вечна ваявалі,
Ачаг забыўшы і дзяцей.

# ПАЛЮБІЎ НАРЫС...

## Міколу СЕРГІЕВІЧУ — 75



**Мікалай Антонавіч родам з вёскі Залессе цяперашняга Салігорскага раёна. У 1937 годзе скончыў Мінскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум, праз два гады — Аршанскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў у Глоданскай сярэдняй школе Лёзненскага раёна, а ў 1941 годзе завочна скончыў факультэт мовы і літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута. У гады Вялікай Айчыннай вайны М. Сергіевіч быў партызанскім сувязным, рэдагаваў старобінскую падпольную газету "Савецкі патрыёт". Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў быў рэдактарам старобінскай раённай газеты, працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх і цэнтральных газет. З 1955 па 1959 год быў старшынёй калгаса "Чырвоны пуцілавец" Старобінскага раёна, а з 1959 па 1981 год працаваў у рэдакцыі часопіса "Народная асвета". Цяпер жыве ў вёсцы Лістападавічы Салігорскага раёна.**

**З першымі нарысамі М. Сергіевіч выступіў у 1947 годзе. Выдаў кнігі "На роднай зямлі" (1956), "Нашы будні" (1957), "Будні калгасныя" (1959)... З'яўляецца аўтарам п'есы "Смех і... толькі", што была пастаўлена ў 1975 годзе.**

**З 75-годдзем Вас, Мікалай Антонавіч! Здароўя Вам і поспехаў!**

# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА



*Помнікам архітэктуры стаў у нашы дні будынак, які ўпрыгожвае Рэчыцу ўжо каля 200 гадоў. У ім раней быў касцёл.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# ЯШЧЭ АДНА ПЕРШАЯ КНІЖКА

**Паэтычны зборнік Алеся Давыдава "Пройма" папоўніў "Бібліятэку часопіса "Маладосць". Родам малады паэт з вёскі Крысін Веткаўскага раёна. Працаваў на вытворчым аб'яднанні "Гомсельмаш", праходзіў вайсковую службу, скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля настаўнічаў на Капыльшчыне. Дарэчы, на гэты час прыпадае з'яўленне падборкі твораў А. Давыдава ў "ЛіМе". Друкаваўся ён і ў іншых перыядычных выданнях — часопісах "Маладосць", "Першацвет", "Роднае слова", "Беларусь", а таксама калектыўным зборніку "Квадра"... Змест першай кніжкі А. Давыдава склалі вершы і прыказы. Як сказана ў выдавецкай анатацыі, паэт моцна звязаны духоўнымі каранямі з роднай зямлёй, так маляўніча апетым Сожам. У сваіх вершах і прыказах аўтар зазірае ўглыб душы, сваёй і чужой, шукае ў ёй выйсця закратаваным чалавечым пачуццям, шукае ісціну.**

гэтай тэрыторыі адпаведна статуту музея-запаведніка могуць быць вылучаны зоны:

запаведная — для захавання і аховы найбольш каштоўных гісторыка-культурных, прыродных ці іншых комплексаў;

экспазіцыйная — для стацыянарнага экспанавання буйнамаштабных музейных прадметаў (помнікаў архітэктуры, этнаграфіі і інш.) і выкарыстання ў культурна-пазнавальных мэтах;

навуковая — для правядзення навукова-даследчай дзейнасці;

рэкрэацыйная — для адпачынку і абслугоўвання наведвальнікаў музея;

гаспадарчая — для размяшчэння дапаможных гаспадарчых аб'ектаў".

9. Адзіны артыкул 21 "Даходы музея" главы VII "Эканоміка музейнай справы" трэба дапоўніць наступнымі палажэннямі:

"Бюджэтныя асігнаванні і пазабюджэтныя сродкі не падлягаюць канфіскацыі.

Дадатковымі крыніцамі фінансавання музеяў з'яўляюцца:

сродкі, атрыманыя за навукова-даследчыя і іншыя віды дзейнасці, якія выконвае музейная ўстанова па дамоўленасці з прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, аб'яднаннямі грамадзян;

прыбытак ад выдавецкай дзейнасці, арэнднай платы за выкарыстанне помнікаў гісторыі і культуры (для музеяў-запаведнікаў).

Дадатковыя крыніцы фінансавання музеяў не абкладаюцца падаткамі".

10. У артыкуле 20 "Дзяржаўная палітыка ў музейнай справе" аднайменнай главы VI павінна быць зафіксавана адказнасць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за рэалізацыю нацыянальнай музейнай палітыкі:

"Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь здзяйсняе арганізацыйна-метадычнае кіраўніцтва музейнай справай і нацыянальную музейную палітыку ў Беларусі:

фарміруе патрабаванні па дзяржаўнаму статыстычнаму ўліку музеяў;

вызначае дзяржаўныя патрабаванні па музейнаму абслугоўванню;

арганізоўвае распрацоўку крытэрыяў эфектыўнасці дзейнасці музеяў і нарматываў дыферэнцыраванай аплаты працы работнікаў дзяржаўных музеяў у залежнасці ад іх кваліфікацыі і вынікаў работы;

стварае спецыялізаваныя арганізацыйныя структуры для навукова-метадычнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння музеяў;

здзяйсняе каардынацыйную дзейнасць па аб'яднанню музеяў у адзіную інфармацыйную сістэму;

арганізоўвае вучобу і прафесійную перападрыхтоўку музейных работнікаў;

здзяйсняе кантроль за дзейнасцю дзяржаўных музеяў, улікам і захаваннем музейнага фонду Беларусі;

арганізоўвае навуковыя даследаванні ў галіне музеялогіі.

Іншыя цэнтральныя і мясцовыя органы дзяржаўнай выканаўчай улады органы мясцовага самакіравання здзяйсняюць кіраўніцтва падведамаснымі ім музеямі".

11. На дзіва кароткі артыкул 24 "Аплата працы і сацыяльныя гарантыі работнікам" трэба напоўніць рэальным зместам, які гарантуе правы і законныя інтарэсы работнікаў музеяў:

"Работнікі музеяў маюць права на:

— дзейнасць у адпаведнасці са спецыяльнасцю і кваліфікацыяй у музеях, незалежна ад формы ўласнасці;

— узровень заработнай платы не ніжэй сярэдняга па рэспубліцы?

— абарону ў судовым парадку права інтэлектуальнай уласнасці на вынікі навуковай дзейнасці ў галіне музейнай справы;

— бясплатнае карыстанне даведачна-інфармацыйнай, бібліятэчнай і архіўнай базай музеяў Беларусі і наведванне музейных устаноў;

— удзел у навукова-даследчай рабоце музеяў, канферэнцыях, семінарах, навуковых чытаннях;

— павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, свабодны выбар праграмы, форм навучання, стажыроўку ў іншых музеях, у тым ліку за мяжою;

— атэстацыю ў мэтах атрымання кваліфікацыйнай катэгорыі;

— даплату за выслугу гадоў у музеі ў парадку, устаноўленым Кабінетам Міністраў;

— патрабаванне да юрыдычных і фізічных асоб аб спыненні дзеянняў, што пагражаюць захаванасці помнікаў музейнага фонду Рэспублікі Беларусь".

12. Тэкст закона павінен утрымліваць фінальную частку (асобную главу ці некалькі артыкулаў), якая б забяспечвала механізм яго рэалізацыі.

"Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" з дня яго апублікавання.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1997 годзе прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з законам Рэспублікі Беларусь "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь".

Спадзяёмся, што Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры здолее па-дзяржаўнаму паставіцца да завяршэння работы над праектам закона "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" і падвядзе трывалы законны падмурак пад будынак Беларускага Музея.

**Алесь КАЎБАСКА,**
**дактарант ІМЭФ АНБ, вядучы навуковы супрацоўнік Бел ІПК**

Памяць

# ЗАСТАЕЦЦА СВЯТЛО...

## 8 ВЕРАСНЯ — СОРАК ДЗЁН, ЯК СПЫНІЛАСЯ СЭРЦА НАРОДНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСІ УЛАДЗІМІРА АЛОЎНІКАВА

Няма слоў, каб выказаць свае пачуцці да Яго. Паважаю... Шаную... Люблю... Кампазітар... Настаўнік... Другі бацька... Пайшоў у іншы свет чалавек, які падарыў мне творчае жыццё, які вырашыў мой творчы лёс.

Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў! Вы былі і застаняцеся ў памяці народа сваёй музыкай. І той, з якой пачынаецца кожная раніца. І той, якую былыя партызаны лічаць народнай, але ж напісанай пасля вайны. І той, якая, магчыма, з часам стане гімнам Мінска. Вы былі занадта патрабавальным творцам і, на жаль, менавіта з-за гэтай патрабавальнасці мноства цудоўных Вашых мелодый не дайшло да свайго слухача.

Уладзімір Уладзіміравіч! Вы былі і застаяцеся ў памяці сваіх вучняў непаўторным Настаўнікам. Настаўнікам-майстрам, які не хаваў сваіх сакрэтаў, а шчыра дарыў свае веды, сваё майстэрства вучням, які стварыў беларускую школу гармоніі. Вы былі патрабавальным, часам жорсткім , але заўсёды справядлівым. Вы навучылі нас гармоніі не толькі ў музыцы, але і ў жыцці. Дзякуй Вам.

Уладзімір Уладзіміравіч! У маёй памяці Вы застаняцеся тым Святлом, якое можна параўнаць толькі з Сонейкам.

**Ларыса МУРАШКА,**
**кампазітар**



Вандроўкі

# ДА БАЦЬКІ НЁМАНА

Ідэя прайсціся летам уздоўж Нёмана, пачынаючы ад яго вытокаў і далей, уверх па цячэнні, у членаў літаратурнага аб'яднання "Нёманец" з'явілася з паўгода назад. Невыпадкова ж у назве нашай творчай суполкі і вялікай беларускай ракі адзін корань. У час абмеркавання гэтая ідэя абрастала новымі прапановамі, творчымі задумамі, перш чым з'явілася пэўная канкрэтная праграма. І не бяда, што яна ажыццявілася не ў поўным аб'ёме, штосьці давялося карэкціраваць на хаду, ад чагосьці свядома адмовіцца, а з чымсьці і зусім развітацца. Галоўнае ў тым, што пачатак зроблены, літаратурнае аб'яднанне — у пастанным творчым пошуку, і, акрамя звычайных сустрэч пачынаючых і больш сталых паэтаў, пісьменнікаў у коле сяброў і з прафесійнымі майстрамі пяра, выдання кніжак мясцовых аўтараў, спрабуе свае сілы і ў нетрадыцыйных формах работы — тэатральных пастаноўках, краязнаўчай справе, а цяпер вось — і ў турызме.

У дзень пачатку вандроўкі з самай раніцы да абеду ліў спорны летні дождж. Тым не менш, адступаць ад задуманага не сталі і апоўдні група энтузіястаў, упакаваўшы рукзакі, рушыла ў дарогу. Паход наш быў не чыста пешым, а камбінаваным, частку шляху пераадолелі на чатырохколавым сябры — "уазіку", але ўсё ж рамантыкі, уражанняў у кожнага з яго ўдзельнікаў засталося багата.

...Пад акампанемент дробнага дожджыку першы прыпынак робім па-за вёсачкай Верх-Нёман. Толькі цяпер, улетку, можна назваць гэта паселішча вёскай. На працягу года яно пустуе, а з надыходам цяпла прыязджаюць у гэтыя некалькі домікаў часовыя жыхары, гараджане са сваімі сем'ямі, якім мясцовыя ўлады гадоў некалькі таму далі дазвол будавацца на пустуючых сядзібах сваіх бацькоў, родзічаў. Магчыма, з часам і адродзіцца вёсачка, не толькі ўлетку будуць шчыраваць на зямлі тутэйшыя людзі.

Падыходзім да мемарыяльнага знака — умураванай у камень пліты з надпісам аб тым, што з гэтых мясцін бярэ пачатак пад назвай Нёманец знакамітая беларуская рака. Устанаўліваўся ён роўна год назад, ва ўрачыстай абстаноўцы, падчас старту міжраённай эстафеты "Па Нёману песня плыве". Гаварылася тады шмат патрэбных і прыгожых слоў пра неабходнасць ушанавання і пастаяннага падтрымання ў належным парадку гэтага свяшчэннага для кожнага сапраўднага беларуса месца. Што тут сёння? На жаль, не скажаш, што клопатамі і ўвагай ахоплены нёманскі выток. Тры дрэўцы, пасаджаныя летась паабапал мемарыяльнага знака, якія па задумцы павінны сімвалізаваць еднасць трох раёнаў-суседзяў Прынямоння (Уздзенскага, Капыльскага і Стаўбцоўскага) і якія калісьці абяцалі даглядаць, пры неабходнасці — перасадзіць, сёння тырчаць засохшымі дубцамі. Вышэй каменя з шыльдай з усіх бакоў уздымаецца далёка не культурная трава. Акрамя таго, дадумалася ж нечая галава з калгаснага поля ці ўласнага падворка прывезці і скінуць упрытык да мемарыяльнага знака дзесятка паўтара камянёў-валуноў. Не, не навучыліся ў нас яшчэ шанаваць культурныя здабыткі. Адносяцца гэтыя словы як да тых, хто непасрэдна шкодзіць тут, так і да тых, хто мог бы паруліцца час ад часу навесці тут парадак.

Адкінуўшы ўбок непатрэбныя камяні, сарваўшы пустазелле перад шыльдай, пастаяўшы хвілін колькі на развітанне, сфатаграфаваўшыся на памяць, пакідаем гэтыя мясціны.

Наступны значны прыпынак на нашым шляху — вёска Нізок. Ну хіба ж можна было ў час вандроўкі па родным краі абмінуць гэты знакаміты населены пункт? Тым больш, што па папярэдняй дамоўленасці ахвотна згадзілася ахвяраваць сваім вольным часам і прыехаць з Прысынка ў Нізок, каб арганізаваць дзеля нас экскурсію па школьным музеі, настаўніца школы Вольга Міхайлаўна Суткаленка. І вось мы ва ўтульным невялічкім школьным пакоі. Сапраўды, патрэбна было быць таленавітым мастаком, майстрам, каб увасобіць свае ідэі, уяўленні ў цэласную карціну, суцэльную панараму музейных экспазіцый. Выдатна справіўся Уладзімір Курдзюкоў са сваімі абавязкамі.

Вольга Міхайлаўна пераводзіць нас ад стэнда да стэнда, мілагучнай роднай мовай распавядае пра славутых нізаўчан: літаратараў Паўлюка Труса, Кандрата Крапіву, Лідзію Арабей, артыста Анатоля Труса, мастака Уладзіміра Ткачова, пра гісторыю школы, калгаса, гісторыю стварэння музея і перспектывы яго развіцця. Дай Бог, каб ажыццявіліся ўсе вашы творчыя задумы і стаў з часам гэты школьны пакойчык не звыклым ужо для Уздзеншчыны літаратурным музеем адной асобы, а незвычайным нават для Беларусі Музеем Слова. І дзякуй Богу, што ёсць у нас яшчэ такія краязнаўцы-аматары, якія рупяцца пра захаванне спадчыны роднага краю на голым энтузіязме, аддаюць свае веды, творчы патэнцыял, вольны час і здароўе дзеля агульнанацыянальнай справы.

Пасля экскурсіі па музеі адбылася невялічкая сустрэча ўдзельнікаў турпаходу з жыхарамі вёскі. Члены "Нёманца" расказалі нізаўчанам пра мэты сваёй вандроўкі, а пасля пад воплескі землякоў уручылі мясцоваму паэту Мікалаю Канстанцінавічу Каралю дыплом аднаго з пераможцаў I нацыянальнага фестывалю беларускай байкі, што праходзіў ва Уздзе вясной з нагоды 100-гадовага юбілею К. Крапівы і каштоўны прыз.

З Нізка лясной дарогай накіроўваемся ў бок вёскі Камяное. Выходзім з лесу і, мінуўшы лугавіну, спыняемся ля двух велізарных камянёў-валуноў. Колькі стагоддзяў ляжаць яны тут перад вёскай! Фотаздымкі на памяць, працягваем свой шлях. Уздоўж меліярацыйнага канала крочым далей, удыхаючы водар свежаскошанай травы, любуючыся бусламі на сенажаці, жоўтымі гарлачыкамі ў затоцы, застыўшым у нерухомасці арлом на слупку. Хвілін колькі стаім ля месца зліцця Нёмана і Вусы. Шкада тых, хто ніколі не бачыў такіх непаўторных па прыгажосці мясцін беларускай прыроды ці, праходзячы міма, не заўважае гэтай прыгажосці.

А колькі яшчэ такіх маляўнічых пейзажаў было на нашым шляху! І ў ваколіцах вёскі Пад'ельнікі, і панарама, што адкрываецца воку любога падарожніка з моста, які злучае Уздзеншчыну з Капыльшчынай. Зірнеш на адзін бок моста — спакойна цякуць па сваіх руслах Вуса і Лоша, раз'яднаныя лугавінай, а па другі бок, праз як паўсотню метраў, зліваюцца ў шырэйшую адзінкую раку. Так, менавіта тут пачынаецца ўжо сам Нёман. І ўсё тыя ж маленькія цуды зямлі беларускай навокал: рыбакі з вудамі па берагах, каровы ў кустах пасуцца ўперамежку з бусламі, паўзе ўдалечыні воз з сенам, хлапчукі, закасаўшы калошы, заходзяць у ваду — надвор'е пакуль не сонечнае, купацца пакуль халаднавата...

Сабраўшы па ўзгорках кветак чабору, мяты, зверабою для вячэрняга чаю, зайшлі ў Наднёман. Лёс вёсачкі такі ж, як і ў Верх-Нёмана: толькі ўлетку ажывае. А побач жа — помнік архітэктуры і гісторыі, якому больш за дзвесце гадоў. Дакладней, тое, што ад яго засталося. Так, не распачата пакуль рэстаўрацыя сядзібы яшчэ аднаго нашага славутага земляка, вучонага еўрапейскай вядомасці Якуба Наркевіча-Ёдкі, хоць і рабіліся дзеля гэтага гадоў колькі назад пэўныя захады, нават адпаведная дамоўленасць з рэспубліканскім музеем экалогіі і заакіянскімі родзічамі вучонага былі. Калі мы ўжо пераможам нашу беднасць! Зрэшты, і ў ранейшыя, больш-менш багацейшыя часы не вельмі спяшаліся ў нас выдзяляць сродкі на рэстаўрацыю помнікаў даўніны, адраджэнне нацыянальнай культурнай спадчыны. Што ўжо цяпер казаць.

Пастаяўшы каля рэштак муроў палацавага ансамбля Ёдкаў, былой вежы, санаторыя, іншых пабудоў, садзімся ў аўтамабіль, каб паспець пераадолець да вечара некалькі дзесяткаў кіламетраў да месца першага нашага начлегу на супрацьлеглым беразе Нёмана, непадалёку ад Касцяшоў. Будуць яшчэ доўгія вечары і ночы ля вогнішчаў, знаёмствы з ваколіцамі Касцяшоў, Яршоў, Галавачоў, Магільна, Матэцкіх, будуць кусліўыя камары і салаўіныя світанкі, лоўля рыбы і збор грыбоў, ягад, калектыўнае напісанне вершаў і ўрокі саломапляцення, прыемныя і не вельмі, запланаваныя і нечаканыя сустрэчы, будуць незабыўныя ўражанні і ўспаміны. Будзе вельмі шкада, што так хутка праляцелі адведзеныя для вандроўкі тры дні, але пакуль ёсць у шэрагах "Нёманца" такія энтузіясты, краязнаўцы, аматары літаратурнай творчасці, як загадчыца Уздзенскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Клаўдзія Рогава, педагог Міхаіл Малашэвіч, выкладчыца ПТВ-210 Зоя Сімагасціцкая, сацыяльны работнік Валянціна Малашэвіч, жыхар в. Магільна Мікола Стравераў, настаўніца Цялякаўскай СШ Валянціна Чарнюк, швачка швейнага цэха райспажыўтаварыства Іна Гетманчук і многія іншыя, будуць яшчэ новыя задумы і падарожжы па родным краі, новыя знаёмствы і адкрыцці, новыя ўражанні і творчыя справы.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
**кіраўнік літаб'яднання "Нёманец"**
*Уздзенскі раён*

# ПРА САМАЕ ГАЛОЎНАЕ...

## ПІСЬМЕННІК АНАТОЛЬ СУЛЬЯНАЎ РАСКАЗВАЕ ПРА ДЫСБАТ

— У дысцыплінарны батальён я хаджу ўжо 8 гадоў. Там, у Масюкоўшчыне, адбываюць тэрмін асуджаныя салдаты. А пачалося ўсё з таго, што мяне, тады намесніка начальніка палітупраўлення Беларускай ваеннай акругі, паклікаў камандзір акругі Я. Іваноўскі і кажа: "Займіся дысбатам". Я заняўся — і схапіўся за галаву. Нашы органы правапарадку і сістэма пакарання страшныя тым, што з іх дапамогай чалавек не выпраўляецца, а страчвае сваю чалавечую сутнасць.

Што такое дысбат? Гэта замкнёная, абнесеная калючым дротам прастора. Пры Савецкім Саюзе там адбывала свой тэрмін 1100 асуджаных ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў. Гэта не турма ў звычайным сэнсе слова, а вайсковая часць з асобым рэжымам. Казармы, страявы плац, агароджаная будоўля. Вартавыя сабакі, вокрыкі... Прыкладна як у зоне. Але яны салдаты. У іх чыстыя пасцелі і раз на тыдзень лазня.

Тады там працавала камісія ў складзе 12 чалавек, і я 10 дзён вывучаў парадкі ў часці. Разам з салдатамі я абедаў, хадзіў у лазню, на будоўлю, гутарыў з імі, адным словам — прападаў у дысбаце цэлымі днямі. Мне адкрылася многае з таго, што хацелі схаваць, і камандаванню гэта, самі разумееце, мала падабалася. Мае выступленні ў ротах праводзіліся пад наглядам афіцэраў, і ўрэшце на мяне куды трэба наскардзіліся. Давялося тлумачыцца з Іваноўскім.

— Табе сапраўды трэба — хадзіць туды?

— Трэба, — адказаў я.

І далей ужо сустракаўся з дысбатаўцамі без наглядчыкаў.

**Адступленне першае.**

У дзяцінстве (а прайшло яно ў вёсцы пад Масквой) я гадаваў трусоў. Я любіў гэтых звяркоў, гуляў з імі і зусім не задумваўся пра іх, так сказаць, лёс. Неяк да нас прыехаў госць са сталіцы, і бацька, палічыўшы, што я дастаткова дарослы, дае мне нож і кажа: "Зарэж труса, здымі з яго шкуру, выпатрашы і дай маме, хай згатуе". Я ведаў, што перш трэба стукнуць труса малатком па галаве, каб аглушыць. І калі я зрабіў гэта, у труса з вачэй пацяклі слёзы... Я кінуў нож, і, мабыць, з той пары ў мяне ў крыві — заступацца за безабаронных і слабых.

Тэма жорсткасці, дабра і зла прывяла мяне да справы Берыі. Напісаў я ліст міністру ўнутраных спраў Шчолакаву, мяне пераадрасавалі да Кручкова, потым у ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР. Мяне вадзілі па крузе, і толькі дзякуючы маскоўскім сябрам я ўрэшце атрымаў 29 тамоў гэтай засакрэчанай справы. Працаваў я ў спецыяльным пакоі з васьмі раніцы да васьмі вечара, на адной вадзе. Дакументальная кніга, якой я аддаў 5 год жыцця, выйшла ў 1991 годзе і мае назву "Арестовать в Кремле".

Пасля праверкі па маёй запісцы быў вызвалены з пасады камандзір батальёна і некалькі камандзіраў рот. Туды прыйшлі новыя людзі. Я мог са спакойным сумленнем займацца службай і пісьменніцкай справай. Але штосьці не давала мне пакінуць іх, нават тады, калі я пайшоў у запас. Мне камандаванне вызначыла дзень — пятніцу, і ў гэты дзень я меў магчымасць дзве з паловай гадзіны правесці з асуджанымі. Першыя нашы тры сустрэчы яны толькі слухалі. Я расказваў пра літаратуру, пра мастацтва, пра сваю лётную практыку, пра тое, як паводзіць сябе ў грамадскім транспарце... Пра што заўгодна. Потым яны разварушыліся; ажылі і пачалі задаваць пытанні. Я дазволіў ім пісаць ананімныя запіскі. Перш праходзіла па 3-4, а пасля мяне закідалі імі. За гэты час у мяне іх шмат сабралася, я іх берагу...

Салдаты не проста асвойталіся, яны адчулі, што я з імі, што я не чужы. Здаецца, я быў цікавы ім як асоба, як чалавек. Так што мы ўзаемна раскрываліся.



*Фота А. МАЦЮША*

**Адступленне другое.**

Тры мары ў мяне было. Першая — стаць лётчыкам, і яна збылася. Другая — пакланіцца праху Талстога, Пушкіна, Ясеніна. Я пабываў на іх магілах. І трэцяя запаветная мара — пабываць у Эрмітажы і Луўры. У мінулым годзе сын мне падараваў пуцёўку ў Францыю, і я пабываў там з ім і з унукам. Каля Луўра я знайшоў цікавага субяседніка-француза, які вывучаў рускую літаратуру. Ён працытаваў мне выказванне Альберта Эйнштэйна: "Дастаеўскі даў мне болей, чым Гаўз" (Гаўз — класічны фізік). І я неяк па-іншаму паглядзеў на сваю пісьменніцкую працу. Ва ўсё, што робіцца ад душы, і ўкладзена душа. Інакш ні літаратура, ні мастацтва не хвалявалі б людзей...

Акрамя славутага музея, мне давялося пабываць у адной з парыжскіх школ. Аказалася, у пачатковых класах дзяцей там вучаць не толькі чытаць і лічыць, але найперш — як паводзіць сябе, як любіць і аберагаць прыроду і быць цярплівымі з акаляючымі людзьмі. Скажыце, хто і дзе ў нас гэтаму вучыць?! Ну, не дысбат возьмем, звычайных нармальных навучэнцаў ПТВ (я пабываў у шмат якіх мінскіх вучылішчах). Каб яны паслухалі кагосьці хоць 20 хвілін, выкладчыкі перакрывалі ўваходы ў актавую залу.

У параўнанні з імі савецкія дасбатаўцы проста акадэмікі. У ПТВ не задаюць пытанняў, бо не могуць слухаць. Проста не ўспрымаюць. Мяне, праўда, яны слухалі паўтары гадзіны, бо я ўзяў з сабой лётны шлем і так званы ВКК — камбінезон, у якім лётаў у космас Гагарын. Я цікавіўся іхняй праграмай, яна не прадугледжвае выхавання. Хто склаў і зацвердзіў такія праграмы? Калі браць па высокім рахунку, то наша Міністэрства адукацыі павінна называцца міністэрствам "адукацыі і выхавання"...

Пра што б я з імі ні гутарыў, я стараўся абапірацца на жыццёвыя факты. Была, напрыклад, запіска па Купрыну, і я расказаў ім, як калісьці мы, школьнікі, сустракалі Купрына, калі ён вярнуўся з-за мяжы і прыехаў адпачываць у Галіцына (гэта побач з нашай вёскай). Я расказаў ім пра алею Анны Керн у Міхайлаўскім, пра кавалак старога дрэва, які прывёз адтуль на памяць. Я расказаў ім пра яе дзённікі, пра незвычайны лёс гэтай жанчыны, якая ўсё жыццё кахала Пушкіна. "Помнік Пушкіну павезлі!" — сказаў ёй, старэнькай, муж. "Цяпер я магу памерці", — адгукнулася яна, і ноччу яе не стала...

Я чытаў ім на памяць вершы Ахматавай і Цвятаевай. Былі выпадкі, калі яны апладзіравалі стоячы...

Ім патрабавалася духоўная ежа. Сякія-такія веды былі — сярэднія школы пазаканчвалі. У запісках яны пыталіся пра сталінскія часы, пра маё стаўленне да дэмакратыі, пра пошукі Янтарнага пакоя, пра загадку смерці Ясеніна і пра многае іншае. Я зразумеў, што патрэбен ім — і што мяне аднаго недастаткова. Тады я склаў праграму выхавання, у якой ішоў ад нуля — ад культуры паводзінаў. Вынес гэтую праграму на абмеркаванне рэспубліканскай грамадскай камісіі па шэфстве над Узброенымі Сіламі. Яе пакрытыкавалі — і зацвердзілі. І я прывёў у Масюкоўшчыну, у будбат ва Уруччы, у батальён аховы Міністрэства абароны кампазітараў, пісьменнікаў, артыстаў, ветэранаў, эстрадныя ансамблі. Не ўсіх, скажу шчыра, успрымалі. Падчас гаварылі: "Гэтых болей не прыводзьце". Для іх не існуе статуса, пасады, звання — толькі сам чалавек, які ён ёсць.

**Адступленне трэцяе.**

Мне пашчасціла нарадзіцца ў незвычайных мясцінах. У трох кіламетрах ад нашай вёскі — дача Ганібалаў, побач — памесце князя Галіцына, дзе жылі ў свой час Напалеон і Марына Мнішак, дзе ля царквы пахаваны брат Пушкіна. Гэта зямля, асвечаная культурай і дваранскімі традыцыямі. Асаблівая зямля...

У маім жыцці быў чалавек, якога я не магу ўспамінаць без душэўнага хвалявання. Гэтая мая першая настаўніца і дырэктар школы Вера Васільеўна, нашчадак графоў Разумоўскіх, якія стаялі ля вытокаў расійскай адукацыі. Гэта яна выхавала ўва мне любоў да паэзіі. Калі ў вайну памёр мой бацька (нас у мамы засталося трое, мне, старэйшаму, было 13 год), яна вяла нас да сябе дамоў і карміла супам. Калі я атрымаў свой першы ордэн Баявой Чырвонай Зоркі, я заціснуў яго ў руцэ і падумаў: "Гэта ордэн на дваіх". Я меў на ўвазе яе, сваю настаўніцу. Адна з першых маіх публікацый у "Комсомольской правде" была прысвечана ёй.

Трэба сказаць, што вопыт выхаваўчай работы ў мяне ўжо быў. 8 год я працаваў лётчыкам-інструктарам Армавірскага вайскова-авіяцыйнага вучылішча (якое і сам заканчваў). А ў Грозным вучыўся на інструктара. Там мы вывучалі педагогіку (300 гадзін) і псіхалогію (200 гадзін). Разумныя былі начальнікі ў былой Савецкай Арміі...

Усё, што я расказаў пра свае кантакты з асуджанымі салдатамі, тычылася часоў ранейшых. Цяпер кантынгент іншы. Параўнайце лічбы: на мільён ваеннаслужачых былой Савецкай Арміі (Германія, Польшча, Прыбалтыйскі округ, Беларусь) прыпадала 1100 асуджаных. Зараз на 85 тысяч беларускай арміі — 400. Заўважаеце рост? У мінулым годзе па адной толькі Гомельскай вобласці зарэгістравана 1800 злачынстваў, учыненых падлеткамі. Быў выпадак, калі ў Мінску ў групавым згвалтаванні ўдзельнічаў 12-гадовы хлапчук...

Рэзка ўпаў адукацыйны ўзровень тых, хто трапляе ў дысбат і будбат. Ёсць такія, што не прачыталі ніводнай кнігі. Я ім кажу: "Назавіце хаця б трох сучасных беларускіх пісьменнікаў". Назвалі аднаго Танка. Ну як не сорамна? Вы ж беларусы, гэта мне, русаку, можна не ведаць... Коласа не змаглі назваць. Пра Быкава не чулі. Тады я прынёс ім "Вянок" Максіма Багдановіча, расказаў пра яго жыццё, пра раннюю смерць. Яны сядзелі, раскрыўшы раты. У бібліятэку цяпер ходзяць адзінкі, а між тым у іх мора вольнага часу. Невыпадкова ў Беларусі за апошнія гады закрыта паўтысячы бібліятэк. Нідзе ў СНД такога няма. Кандыдаты ў дысбат гадуюцца ў школах, у тых жа ПТВ, у гарадскіх дварах... Калісьці пры кожным ЖЭСе ці домакіраўніцтве быў педагог-арганізатар. Дзе яны цяпер? У нас 120 тысяч супрацоўнікаў міліцыі, а парадку ўсё роўна няма, бо перш трэба выхаваць маладога чалавека, а пасля патрабаваць законапаслухмянасці.

**Адступленне чацвёртае.**

Зрэшты, балбесаў паўсюль хапае. У горадзе Х'юстан (штат Тэхас) я зайшоў на ўрок матэматыкі. Усе працуюць, а два хлопцы ляжаць на падлозе. Не хочуць вучыцца, тлумачаць мне. Дык адлічыце іх са школы! Аказалася, што пры адлічэнні вялікі штраф плацяць і бацькі, і сама школа. У нас да восьмага класа цягнулі за вушы без усялякіх штрафаў.

— Назавіце двух амерыканскіх пісьменнікаў сярэдзіны XX стагоддзя, — кажу я ім.

Маўчанне. Не назвалі нават Фолкнера і Хемінгуэя. Не прыпомнілі ніводнага сусветнай вядомасці кампазітара любога стагоддзя. Усе памяшаліся на року. Што ў такім разе робіць урад? Яны абавязваюць вайсковыя часці займацца гэтымі невукамі, для чаго адлічваюць і спецыяльныя сродкі. Для далейшай адукацыі ствараюцца гурткі па інтарэсах. Тая самая навука, толькі ў іншай, больш вольнай і займальнай форме.

І яшчэ адзін прыклад. У 1983 годзе з генералам Іваноўскім паляцелі мы ў Казахстан на сакрэтны ракетны палігон. У гарнізоннай бібліятэцы прагладаю кнігі. Гляджу на "Б" — Быкаў. Два томікі, зачытаныя да дзірак, да трухі. Папрасіў адзін для аўтара, а ён ім выслаў пяць новенькіх.

Раней у дысбат траплялі за дызерцірства (туркмены, узбекі), за бойкі, скажам, паміж армянамі і азейбарджанцамі. Зараз першае, за што сюды трапляюць, — крадзяжы. Стаіць на пасту, выламаў дзверы, прадае абмундзіраванне. Другое — бойкі, калі напрыклад, беларусы-заходнікі б'юць гомельскіх. І трэцяе — уцёкі, дызерцірства. Зараз і запіскі іншыя. Расказваю ім пра вядомую, паважаную артыстку, а яны пытаюцца: "А якая яна ў ложку?". Юныя цынікі, перасычаныя жаночым целам к сваім 18-ці. А пра каханне ўсё роўна любяць слухаць, хоць і гыгыкаюць. Раней мне ўвогуле давodзілася спавядаць іх. Так, так, не здзіўляйцеся! У амерыканскіх адпаведных установах для гэтага існуюць капеланы. Застаешся з вока на вока, і хлопец расказвае ўсё, што набалела. Сёння ў іх амаль няма такой патрэбы.

...Некалькі гадоў таму ў мяне ўкралі новенькую "Волгу", на яе пайшоў увесь ганарар за кнігу, ды яшчэ пяць тысяч пазычыў. Я, натуральна, у шоку, сям'я таксама. Не памятаю, як я трапіў у наш мастацкі музей. А я часцяком там бываў, мне вельмі падабаецца партрэт княжны-грузінкі. Апомніўся я якраз перад гэтым партрэтам. Адбыўся цуд: гэтая княжна забрала ўсю чарнату з душы і дала мне сілу. З музея я выйшаў іншым чалавекам. Падчас і думаю: вось каб мы маглі гэтак жа забіраць у моладзі адмоўную энергію і даваць ёй станоўчую, стваральную...

**З запіскі асуджаных.** "Уважаемый тов. генерал! Огромное, преогромное Вам спасибо за интереснейшую беседу. Беседу о самом главном в жизни человека... Пускай Господь поможет Вам в Вашем благородном деле. От 4-ой роты".

**Запісала Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

**Пасляслоўе**. Я збіралася гутарыць з Сульянавым-пісьменнікам, а адкрыла для сябе Сульянава-педагога, самабытную асобу, высакароднага чалавека, які аддае салдатам не толькі вольны час, але і часцінку душы. Ёсць спакуса і іншых творцаў заклікаць да чагось падобнага, але спыняе разуменне, талент педагога, — адзінкавы, ён не тыражуецца, і аднаго жадання тут недастаткова. Няма сумнення, што праблемы, паднятыя Анатолем Канстанцінавічам, надзвычай сур'ёзныя і вартыя ўвагі грамадскасці.


**ЛіМ**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4449
Нумар падпісаны 5.9.1996 г.
Заказ 5019/Г

П 123456789101112
М 123456789101112